*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 36 (248)

6 верасня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **З ВЕРАСНЯ Ў МЕНСКУ Ў ПАРКУ ІМЯ М.ГОРКАГА АДБЫЎСЯ ФЕСТЫВАЛЬ ПРЭСЫ, ПРЫСВЕЧАНЫ ДНЮ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ**. Асноўныя святочныя мерапрыемствы ў гэты дзень прайшлі ў старажытным Тураве

❍ ***У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» МІНІСТР АДУКАЦЫІ ВАСІЛЬ СТРАЖАЎ СКАЗАЎ***: *«Ёсць пэўныя думкі аб падтрымцы беларускай мовы. І я лічу, што ў нашай дзяржаве, калі яна мае назву Беларусь, не павінна ўзнікаць пытання аб тым, што дзяржава не будзе аказваць падтрымку развіццю беларускай мовы. Будзе, абавязкова будзе! Я ў чэрвені накіраваў пісьмо прэзідэнту з прапановай аб стварэнні новай дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы. Прэзідэнт пагадзіўся». Было б яшчэ лепш, каб гаворка перайшла ў канкрэтную падтрымку, а так абяцанні абяцаннямі, а беларускую мову яе ворагі як тапталі, так і топчуць*

❍ **ВЯРТАННЯ ДА ПЛАНАВАЙ ЭКАНОМІКІ БЫЦЬ НЕ МОЖА**, лічыць міністр па антыманапольнай палітыцы нашай краіны Іван Лях. Пра гэта ён заявіў падчас прэс-канферэнцыі.

❍ ***ПРАКУРОР МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЛЕЎ МІКАЛАЕЎ У ПРЫСУТНАСЦІ ВЕРНІКАЎ УРУЧЫЎ НАСТАЯЦЕЛЮ ХРАМА ТРОХ СВЯЦІЦЕЛЯЎ АЙЦУ БАРЫСУ РЭЛІКВІЮ — ВЫНАСНЫ КРЫЖ СА СВЯТЫМ ЛІКАМ ІСУСА ХРЫСТА***. *Крыж быў знойдзены ў 1989 годзе ў Бабруйскім раёне ў ходзе раскрыцця шэрагу злачынстваў. На думку спецыялістаў, крыжу не менш як 700 гадоў.*

❍ **У СТАЛІЧНЫМ ГАРСАВЕЦЕ АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ ПА АДУКАЦЫІ І КУЛЬТУРЫ**. Старшыня гэтай камісіі Вольга Кузьміч сказала: «З дня рэферэндуму адбыліся істотныя адмоўныя змены. Беларуская мова фактычна выцеснена зараз са школы, таму што нават тыя школы, якія мелі статус беларускамоўных — іх было 136, — зараз гэтага статуса не маюць Бо там створаны і рускія, і беларускія класы. А што гэта значыць? Разбураецца моўнае асяроддзе, адпаведна — і якасць выкладання. Фактычна нашы дзеці не будуць валодаць у аднолькавай меры добра рускай і беларускай мовамі. Будзе агульная непісьменнасць, чаго і так ужо дастаткова ў нашым грамадстве». І яшчэ раз: дзе тая абяцаная прэзідэнтам падтрымка беларускай мовы. мовы карэннай нацыі Беларусі?

❍ ***СПІС ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ І АРГАНІЗАЦЫЙ ВЕТЭРАНАЎ РЭСПУБЛІКІ, ЯКІЯ ЗАРЭГІСТРАВАНЫ МІНЮСТАМ*** *і маюць права прымаць удзел у выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета краіны, значна павялічыўся: замест 29, як было раней, цяпер прымаць удзел у выбарах могуць 34 палітычныя партыі і яшчэ 5 ветэранскіх арганізацый.*

❍ **У НАСТУПНЫМ ГОДЗЕ** асноўныя ўрачыстасці, звязаныя са святкаваннем Дня беларускага пісьменства і друку, пройдуць у Навагрудскім раёне.

***ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!***

*Да 10 верасня працягнута падпіска на беларускую перыёдыку на чацвёрты квартал 1995 года. Хто яшчэ не паспеў падпісацца на «Наша слова», раім гэта зрабіць тэрмінова. Кошт падпіскі на адзін месяц — 2000 рублёў; на тры — 6000 рублёў.*

*Наш індэкс — 63865.*

***РУСКІЯ Ў ПРЫБАЛТЫЦЫ: КАМУ ПАШАНЦАВАЛА?*** *Стар. 3.*

***МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ ЯШЧЭ СКАЖА СВАЁ РАШАЮЧАЕ СЛОВА.*** *Стар. 7.*

***Свята ў Акопах***

## Да купалаўскай крынічкі...

Назва Акопы непарыўна звязаная з імем Янкі Купалы. Сюды, у Акопы, пераехала ў 1909 годзе маці Янкі Купалы, шукаючы лягчэйшай арэнды. Сюды, у гэтыя жывапісныя мясціны, дзе на шырокіх схілах пагоркаў раслі дубы, уздымалася Лысая гара, квітнелі вакол дома прысады бэзу, яблынь, язміну, брызгаліны, шыпшыны, прыязджаў Янка Купала. Тут, у Акопах, была цяжкая сялянская праца, вечная нястача грошай. Але менавіта тут напісаны паэтам можа лепшыя яго творы. Толькі ў першае праведзенае тут лета 1911 года па меншай меры трыццаць тры вершы напісаў паэт. У другое лета ён напісаў тут камедыю «Паўлінка», у трэцяе — тры паэмы, драму «Раскіданае гняздо» і вадэвіль «Прымакі»...

**Чатыры гады назад у вёсцы Харужанцы** быў створаны філіял літаратурнага музея Янкі Купалы «Акопы». Сёлета 26 жніўня тут зладзілася музычна-літаратурнае свята «Спасаўскі кірмаш». На ім прысутнічала шмат знакамітых гасцей і шмат проста прыхільнікаў неўміручага таленту вялікага песняра. Праграма імпрэзы была насычанай. Прысутныя агледзелі музейную экспазіцыю, усклалі кветкі да помніка Янку Купалу, змаглі пазнаёміцца з фотавыставай Альберта Цэхановіча «Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах» (Сцежкамі Янкі Купалы). Адбылося таксама асвячэнне Купалаўскай крынічкі, якая цячэ з-пад магутнага дуба і ваду з якой некалі піў наш вялікі пясняр.

Свята працягвалася на зялёнай паляне, пад высокім дахам неба. Перад прысутнымі выступілі пісьменнікі В.Іпатава, М.Аўрамчык, В.Рагойша, Ул.Някляеў, С.Давідовіч, М.Скобла, І.Чыгрын, артысты В.Манаеў і Г.Дзягілева. З цікавасцю ўспрынялі гледачы выступленні ансамбля «Мінскі гармонік», а та сама самадзейнага фальклорнага калектыва калгаса «8-е сакавіка» Лагойскага раёна

Мясціны, якія сваёй прыгажосцю калісьці натхнялі паэта на напісанне цудоўных твораў, па-ранейшаму захоўваюць сваю прыцягальнасць для тых, хто шукае прыгажосці і натхнення. Добра, што на Беларусі ёсць цяпер яшчэ адно месца культурнага паломніцтва, што ёсць яшчэ адно свята, якое павінна зрабіцца традыцыйным. Выкажам надзею, **што, нягледзячы ні на якія варункі, у на**ступным годзе «Спасаўскі кірмаш» зноў збярэ гасцей з усяе Беларусі, і зноў прагучаць цудоўныя радкі, народжаныя тут:

*К новай долі шлях нам ляжа,*
*Як на неба Млечны Шлях,*
*Слова, дум ніхто не звяжа,*
*Жыць, цярпець не будзе страх!*
*І не стане больш пакуса*
*Першых-лепшых збоку браць,*
*Славяніна-беларуса*
*Вечна ў лапці абуваць.*
*Дык наперад, покі сэрца*
*Б'ецца, рвецца на прастор,*
*Годзе млеці ў паняверцы!*
*Гэй, да сонца! гэй, да зор!*

**Л.Ш.**

## Аказваецца, канфіскоўваць новыя падручнікі Прэзідэнт не збіраўся

Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аспаўсюдзіла паведамленне аб сустрэчы 23 жніўня Аляксандра Лукашэнкі з вялікай групай вучоных, работнікаў народнай адукацыі і вышэйшай школы, дзяржаўнага апарату. Прэзідэнт заявіў, што «ўказа ці іншага дзяржаўна-прававога акта аб «канфіскацыі 151 падручніка не падпісваў і падпісваць не збіраецца». Аказваецца, гэта ўсё зноў падрыўныя акцыі ворагаў Аляксандра Рыгоравіча. У той жа час ён паведаміў, што цяперашнімі падручнікамі ўсё ж незадаволены і ўраду даручана «арганізаваць конкурсную падрыхтоўку новых вучэбных праграм». Прэзідэнт, дарэчы, вельмі слушна заўважыў, што «сфера адукацыі, навукі, культуры — далікатная і тут трэба прымаць узважаныя рашэнні, кіруючыся, зразумела, прынцыповымі дзяржаўнымі інтарэсамі».

На карысць дабрабыту і выжывання беларускага народа, варта дадаць.

**Л.М.**

## Ствараецца Таварыства беларускай школы

**Грамадскі Каардынацыйны камітэт абароны беларускай мовы звярнуўся да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам актыўна супрацьстаяць разбурэнню беларускасці.**

У выніку антыбеларускага рэферэндуму, гаворыцца ў Заяве, фактычна спыніўся рух адраджэння беларускай школы Марна чакаць дапамогі ад Міністэрства адукацыі, якое маўкліва назірае за тым, як у школах пры фармаванні першых класаў гвалтоўна, ашуканствам запісваюць беларускіх дзяцей у расійскамоўныя класы. Шавіністычна настроеныя дырэктары некаторых школ закрываюць і тыя беларускія класы, якія ўжо існавалі некалькі гадоў. Разбураюцца асновы беларускай нацыянальнай школы — першыя парасткі Адраджэння.

Супрацьстаяць гэтым варожым нашай дзяржаве і народу дзеянням, адзначаецца ў Заяве Грамадскага Каардынацыйнага камітэта абароны беларускай мовы, здольны дэмакратычныя арганізацыі, усе людзі, якім дарагія ідэалы незалежнасці і адраджэння нацыі. Усе патрыятычныя сілы Беларусі заклікаюцца згуртавацца вакол ідэі Адраджэння і выратавання беларускай нацыянальнай школы. Прафесійна і стала гэтым павінна займацца адпаведная грамадская арганізацыя, падкрэсліваецца ў Заяве, падобная той, якая ў свой час дзейнічала ў Заходняй Беларусі. **Сённяшні час патрабуе аднаўлення дзейнасці Таварыства беларускай школы на ўсёй тэрыторыі краіны. Заклікаецца ствараць пры школах, у мікрараёнах, гарадскіх раёнах, у гарадах, вёсках суполкі падтрымкі ТБШ, бацькоўскія камітэты і рэгістраваць іх у Каардынацыйным Камітэце абароны беларускай мовы.**

Устаноўчы з'езд ТБШ мяркуецца правесці ў першай палове кастрычніка 1995 г.

**Звязацца з Грамадскім Каардынацыйным камітэтам абароны беларускай мовы можна па адрасу:**

**220034, г. Менск, вул.Румянцава, 13.**

**Тэлефоны: 32-54-46 (удзень). 68-14-35, 60-12-74 (з 19.00 да 22.00).**




## *Запрашае Орша*

**8—11 верасня** на Крапівенскім полі пад Оршай адбудзецца чарговы, чацвёрты з ліку фэст беларускай песні, удзельнікамі якога стануць барды, рок-гурты і самадзейныя калектывы. Арганізацыйны камітэт фэсту запрашае стаць гасцямі свята ўсіх жадаючых.

Сустрэча гасцей і ўдзельнікаў фэсту адбудзецца на прывакзальнай плошчы Оршы 8-га і на другі дзень — 9 верасня ад 10-й да 19-й гадзіны. Кантактныя тэлефоны (8—02161): 2-24-06 ды 2-45-42.

**Аргкамітэт.**

Маладая Беларусь

Піша вам 16-гадовы хлопец, жыхар горада Віцебска. Ніколі вам яшчэ не пісаў, хоць і чытаю «Наша слова» даўно. А напісаць вам ліст сёння падштурхнула публікацыя Сяргея Кавальчука «У будучыню з надзеяй». Я адчуў патрэбу сказаць, што я ёсць і што я не адзін — нас многа, тых, хто ведае сваю гісторыю, любіць сваю мову, сваю родную Беларусь.

Нягледзячы на свой даволі малады ўзрост, я помню многае: і хлеб па 18 кап., і дэманстрацыі, якія я чамусьці ніколі не мог пабачыць, бо міліцыя закрывала ўсе выхады на вуліцу, а каля невялічкіх шчылін тоўпілася столькі народу, што пра тое, каб паглядзець, нельга было і марыць. Памятаю толькі, як нейкая «цёценька» штосьці ўвесь час несла з гучнагаварыцеля, раз-пораз перарываючы сваю гаворку такімі словамі: «Ура, таварищи!» І натоўп адгукаўся: «Ур-р-а-а!»

У такія дні на нашым доме вешалі чырвона-зялёны сцяг. Я быў малы, і ніякіх асацыяцый ён у мяне не выклікаў.

А аднойчы я даведаўся, што Рэспубліка Беларусь — незалежная дзяржава, са сваім сцягам, са сваім гербам, з дзяржаўнай беларускай мовай. Мая рэспубліка! Не ведаю, чаму, але нейкі вялікі-вялікі гонар ахапіў мяне: **«Беларусь мая — лепшая ў свеце! А сцяг наш такі любы, чысты, прыгожы, добры і просты»**. Побач з гэтым сцягам, такім светлым, я не мог нават успомніць той змрочны чырвона-зялёны.

І вось адбыўся рэферэндум... Ведаеце, нідзе ніколі я яшчэ ў нас не чуў, як хто ўспрыняў вынікі галасавання... У мяне быў шок. Я проста сядзеў нерухома гадзіны з тры на ложку і ледзь не плакаў. За акном лунаў бел-чырвона-белы сцяг, які я павесіў, каб людзі бачылі, што яны губляюць. А ў галаве была толькі адна думка: «Немагчыма. Не можа быць». Гэта як бы памёр хто блізкі.

«Увесь дзень я хадзіў, бы той непрытомны», — напісаў мне мой лепшы сябра Мікола ў лісце... Я вучуся ў ліцэі пры БДУ ў Менску, жыву ў інтэрнаце. Калі я расказаў хлопцам ды дзяўчатам навіну, у многіх быў стан, блізкі да майго.

## Веру ў сваю Радзіму

Вырывалася толькі: «Не можа быць!»

Праўда, для некаторых гэта быў самы шчаслівы дзень у жыцці, а для некаторых — самы цяжкі. Я бачыў, як адна дзяўчына плакала. Не дзіва. Я, хлопец, сам ледзь трымаўся. Ведаў бы той, хто гэта ўсё пачаў, што ён робіць. «Звязда» пісала, што беларусы не заслужылі свае сімвалы, што мы не выпакутвалі іх, не змагаліся за іх, а тое, што дадзена дарма, не цэніцца. Прыкладна тое ж сказала мая настаўніца.

А пабачылі б вы, што рабілася ў той час у ліцэі! Хтосьці прынёс дзесяткі плакатаў з «Пагоняй» і расклеіў па ўсіх яго сценах. Але знайшліся і такія, што з дзікай злосцю зрывалі і камячылі тыя плакаты.. Не спяшайцеся ідэалізаваць моладзь...

У гэты ж дзень я паехаў у Курапаты. Прасіць прабачэння... Уразіла бяспамяцтва. Дзеці гуляюць паміж крыжамі ў бадмінтон. На памятным знаку (ад ЗША) сядзяць двое, п'юць гарэлку. А вы кажаце, чаму такія вынікі. А адкуль ім быць іншымі, калі мову ў школе, быў час, вучыў адзін чалавек з дзесяці, калі перакручвалі нашу гісторыю як хацелі. Дарэчы, у нас анекдот ходзіць: Пытаецца адзін у аднаго: «Як перакласці на беларускую мову слова «дэмакратыя»? «Ну, гэта проста, — адказаў субяседнік. — Дэмас — народ. А краты — яны і ёсць краты. Значыцца, народ за кратамі».

Чытаю газеты. Нядаўна выйшаў новы нумар «Народнай волі». Вось піша Ніл Гілевіч: «А вы палічыце, колькі працэнтаў моладзі прагаласавала за нацыянальную сімволіку!» Ніл Сымонавіч, шаноўны, а палічыце, колькі не змагло прагаласаваць! Колькі маладых людзей сядзелі знямелыя ля радыёпрыёмніка, сцяўшы ад бяссілля кулакі, у роспачы, што ганьбяцца твае святыні, а ты анічагусенькі не можаш зрабіць.

Глядзеў алімпіяду па лёгкай атлетыцы. Дні чатыры нашыя спартсмены выступалі пад беларускім сцягам, а потым з'явіўся «ісламскі», і цікавасць да алімпіяды адразу ўпала.

А вы ведаеце, як галасавалі на вёсцы? Маёй бабулі 88 гадоў. Калі ёй паказалі бюлетэнь, спыталася: дзе крэсліць? І ёй паказалі, акурат як напярэдадні па тэлевізары. А вы думаеце, ёй падабаецца цяперашняя палітыка? Не падабаецца. Яна пенсію другі месяц не атрымлівае! Добра, што лета. А тут яшчэ пачула, што Прэзідэнт самалёт для сябе купляе,.. агароджу вакол «прэзідэнцкага палаца» ўзводзіць. А хіба ўсе зразумелі ў час рэферэндуму, які сцяг «новы», а які «стары»?! А колькі прынцыпова адмовіла рэферэндум! А колькі такіх, як я, што яшчэ не маюць права голасу?! Вось і лічыце працэнты. А напрыканцы вершы, якія напісаў у тыя дні.

*Даволі ўжо крычаць:*
*— Прачніся! Абудзіся! —*
*Мо, ён прачнуўся ўжо*
*Й пакажа гэта ўсім...*
*Я веру ў свой народ,*
*Бо ў ва што, скажыце,*
*Калі не ў свой народ,*
*Паверыць мне тады.*
*Я веру ў яго лёс.*
*Я веру, што ён здольны*
*Пранесці праз вякі*
*Свой сцяг і герб святы.*
*Чаму ж тады мне так*
*На сэрцы неспакойна?*
*Чаму ж тады мне так*
*Балюча на душы?*
*Жыве Беларусь!*

**Андрэй КУЗНЕЧЫК,**
**вучань ліцэя пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, жыхар Віцебска.**

З рэдакцыйнай пошты

## Не размаўляць па-беларуску — першы прызнак правінцыйнасці

Усе мовы прыгожыя і добра гучаць з вуснаў тых людзей, якія валодаюць імі дасканала. Напрыклад, прыемна слухаць, як размаўляе па-беларуску Лявон Баршчэўскі — рускі па нацыянальнасці. А Станіслаў Шушкевіч — прафесар фізікі? Само сабой — паэты Ніл Гілевіч, Артур Вольскі, Зянон Пазьняк таксама.

Прыемна слухаць дасканалае гучанне беларускай мовы ў электрапаяздах менскага метрапалітэна, калі аб'яўляюцца прыпынкі. Відаць, запісалі некага з добрых артыстаў на магнітафон. Тым часам у электрычках некаторыя машыністы робяць аб'явы па-беларуску самахоць. А як грэе душу!

А вось у гарадскім наземным транспарце на вуліцах Менска (у аўтобусах, тралейбусах, трамваях) рэдка хто з вадзіцеляў адважваецца рабіць аб'явы па-беларуску, назвы вуліц на шыльдах напісаны на беларускай мове, тое ж шыльды ў салонах, а вось самі вадзіцелі вымаўляюць назвы па-расійску. Атрымліваецца дысананс — не салідна. Канешне, не прывучаны, саромеюцца, магчыма, па старой памяці.

Дык чаму б не зрабіць кіраўніцтву дэпо элементарнага — перад вачыма вадзіцеля, у кабіне прымацаваць шыльдачку, дзе назвы прыпынкаў былі б па-беларуску. І прасачыць, каб вадзіцелі карысталіся гэтым. А то сорамна ж, што, маючы сваю мову, размаўляць на суседскай, правінцыйна.

Гэтыя думкі я выказаў у сваім лісце ў Менскі гарсавет, але вось ужо каторы месяц чакаю адказу. Цяпер напісаў паўторную заяву — ужо на імя старшыні Менскага гарсавета. Вось чакаю, што будзе.

**Мікалай АДАМОВІЧ, рабочы завода імя Вавілава.**

Радыё

## Цярністы шлях ад «БМ» да «Радыё 101,2»

*У канцы ліпеня для жахарой сталіцы ў дыяпазоне FM пачала працаваць новая радыёстанцыя, назву якой дала частата, на якой тая выходзіла ў эфір, — «101,2».*

*Стварэнне прыватнага радыё — рэч у наш час не звычайная. Не звычайным сказалася і тое, што стваральнікамі яго праграм аказаліся журналісты, імёны якіх слухачам былі знаёмыя з перадач радыёпраграмы «Беларуская маладзёжная». Таму пачнём з кароткай гісторыі радыё «101,2».*

*Трохі больш за год таму на Беларускім радыё была ліквідавана праграма «Беларуская маладзёжная», якая ў апошнія гады свайго існавання карысталася надзвычайнай папулярнасцю слухачоў. Афіцыйнай прычынай скасавання праграмы была рэарганізацыя дзяржаўнай тэлерадыекампаніі. Але, як было зразумела ўсім, «БМ» закрылі з прычыны неадпаведнасці поглядаў журналістаў — яе стваральнікаў — пазіцыі ўрада і іх яскравай беларускай арыентацыі. Пасля закрыцця радыёпраграмы яе супрацоўнікі выпускалі газету «Беларуская маладзёжная», а па прыватным 8-м тэлеканале сталіцы з'явілася праграма «Студыя БМ», якая існавала да інспіраванага ўладамі часовага закрыцця канала і перагляду канцэпцыі яго перадач. Але галоўнай мэтай былых супрацоўнікаў «БМ» было стварэнне ўласнай радыёстанцыі. Дзеля ажыццяўлення гэтай мэты спатрэбіўся амаль год, таму першым маім пытаннем падчас сустрэчы з супрацоўнікамі станцыі стала наступнае:*

**— Ці лёгкая гэта справа — стварыць уласную радыёстанцыю?**

**Іна Студзінская**, журналіст: У нашай краіне, дзе семдзесят гадоў не існавала прыватных мас-медыя, дзе ўмовы іх стварэння і дзейнасці не рэгламентуюцца законамі, пачынаць справу нам было надзвычай цяжка. Да таго ж усе дыяпазоны радыё даўно занятыя дзяржаўнымі станцыямі. Адзіны дагэтуль вольны — частоты паміж 88 і 108 МГц, які па ўсім свеце, акрамя СССР і краін савецкага блоку, даўно выкарыстоўваліся прыватнымі радыёстанцыямі малога абсягу дзеяння — да некалькіх дзесяткаў кіламетраў, што вядуць стэрэаперадачы з высокай якасцю гуку. У Менску ў гэтым дыяпазоне дагэтуль існавалі толькі тры станцыі: першы канал дзяржаўнага радыё — той, што гучыць па лінейнай трансляцыі «Радио «Би-Эй», ды рэтрансляванае з Масквы «Радио Рокс».

**— У адрозненні ад вас, першы канал дзяржаўнага радыё з'явіўся ў FM дыяпазоне без перашкод. Ці не выклікана гэта не тэхнічнымі, а іншымі прычынамі?**

**Сяржук Шлёнскі**, журналіст: Я стараюся не задумвацца над гэтым, хаця ведаю: у дзень, калі пачаўся страйк у сталічным метро, мы падрыхтавалі паведамленне, але яно было знята з эфіру Радыё-2. Гэта дазваляе меркаваць, што нашая станцыя апынулася ў менш спрыяльных умовах менавіта з прычыны сваёй незалежнасці.

Сёння ў эфіры па-ранейшаму існуе манаполія дзяржавы на інфармацыю. Менавіта яна і ствараె так званы інфармацыйны вакуум, у якім апынуліся нашыя краіна і грамадства. Але ж павінна існаваць шмат незалежных сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і FM станцый, такіх, як наша, каб яны маглі перадаваць розную, нават супярэчлівую інфармацыю, прадстаўляць розныя погляды на падзеі. Яны павінны даць людзям свабоду выбару — слухаць па-расійску інфармацыю «в столице состоялось заседание президентского совета» і думаць, якой краіны і якога прэзідэнта яна датычыць, альбо чуць звесткі аб падзеях у краі і свеце, якія падаюцца па-беларуску і адлюстроўваюць пункт гледжання грамадзяніна Беларусі.

**— Акрамя жадання і здольнасцей, для арганізацыі прыватнай радыёстанцыі патрэбны грошы і значныя...**

**І.С.**: Іх паходжанне — не сакрэт. Нам дапамог фонд Сораса, ахвяраваўшы патрэбную суму ці, дакладней, абсталяванне, закупленае на гэтыя грошы. Той, хто думае, што, атрымаўшы дапамогу Фонду, мы зрабіліся мільянерамі, памыляецца. Супрацоўнікі станцыі не атрымалі нічога, акрамя магчымасці працаваць.

**— А наколькі гэта плённа? Бо ж прыёмнікі з хвалямі, на якіх вы працуеце, маюць далёка не ўсе. Ці не абмяжоўвае гэта кола вашых слухачоў?**

**І.С.**: Атрымаць магчымасць трансляцыі па доўгіх, сярэдніх ці ультракароткіх хвалях прыватнай станцыі сёння практычна немагчыма. Такім чынам, выбіраць нам не было з чаго.

**Міхаіл Князевіч**, генеральны менеджэр: У дадатак мы адпачатку арыентаваліся на людзей, што маюць радыё з дыяпазонам FM. Сёння гэткай апаратурай карыстаюцца забяспечаныя людзі, яна стаіць у машынах бізнесменаў, у офісах. Другая група нашых слухачоў — моладзь, бо сёння плэер з радыё імпартнай вытворчасці каштуе танней айчыннага прыёмніка.

**— Гэтым дзвюм групам і прызначаюцца вашы перадачы?**

**М.К.**: Так, нашы перадачы прымаюцца толькі ў Менску і прыгарадзе, таму станцыя перадае інфармацыю, якая патрэбная ўсім жыхарам сталіцы, прагноз надвор'я, становішча на аўтадарогах, змены руху гарадскога транспарту, цэны на рынках і іншае. Мы імкнёмся быць цікавымі ўсім. Ствараючы станцыю, мы, канешне ж, імкнуліся зрабіць яе прыбытковай, каб аплачваць свае выдаткі. Мы ведалі, што ў офісах многіх фірм, у дарагіх машынах цэлы дзень працуюць FM прыёмнікі і іх слухачы зацікаўленыя ў тым, каб пачуць на нашых хвалях сваю рэкламу. Таму вялікую ўвагу прысвячаем тэме эканомікі, малому і сярэдняму бізнесу. Але вельмі значную частку нашага эфірнага часу займае і музыка — тая, якой цікавіцца моладзь, ды выпускі навін.

**— Ваша станцыя карыстаецца праграмамі Бі-бі-сі. А яшчэ якімі?**

**М.К.**: Выбарачнай рэтрансляцыяй праграм ВВС займаўся яшчэ другі канал дзяржаўнага радыё, на якім працавалі многія з нас. Але ўрэшце Радыё-2 адмовілася ад рэтрансляцыі. Цяпер гэтым займаемся мы, карыстаючыся атрыманым з Лондана лічбавым сатэлітарным прыёмнікам і бестэрміновай ліцэнзіяй на права рэтрансляцыі. Гэта я лічу вялікім нашым дасягненнем, бо праз гэты канал мы атрымліваем добрую музыку ды інфармацыю, пазбаўленую ідэалагічнай афарбоўкі.

**І.С.**: Праграмы ВВС у нас не пераважаюць. Акрамя гэтай карпарацыі, мы супрацоўнічаем з 5-м каналам Польскага радыё і яго Беларускай рэдакцыяй, абмяньваемся праграмамі з каналамі з Таллінна і Масквы, карыстаемся паслугамі прыватных інфармацыйных агенцтваў Беларусі. Гэта дае нам магчымасць больш аб'ектыўна асвятляць падзеі тут і за мяжой.

**— Яшчэ адно адрозненне вашай станцыі ад іншых — беларуская мова яе перадач...**

**Вольга Бабак**, журналіст: Нядаўна ў рэдакцыі пабываў адзін з нашых слухачоў і рэкламадаўцаў, які спытаў, чаму перадачы вядуцца па-беларуску, мовай, якую ён «почти не понимает»? Але гэта было адзінае нараканне за час нашай працы, і гэта нармальна. Нармальна і тое, што пытанне выбару мовы падчас арганізацыі станцыі проста не паўставала — працаваць у эфіры па-беларуску мы збіраліся адпачатку і робім гэта цяпер.

Да таго ж нашыя слухачы — гэта бізнесмены і моладзь — актыўная частка насельніцтва, людзі, сведамасць якіх сфармавалася ў час перамен. І ў краіне, якая адрадзіла сваю мову, сваю сімволіку, аднавіла сваю незалежнасць. Заўтра лёс нашага краю будуць вызначаць менавіта гэтыя людзі, і сваёй працай мы імкнёмся нагадаць, хто яны.

**— Мне даводзілася бываць на падобных вашай станцыях у Польшчы і на ўласных вочы пераканацца: яны маюць вялікі ўплыў і вялікія перспектывы. Якую будучыню бачыце перад сабой вы?**

**І.С.**: Мы жывём у краіне, падзеі ў якой разгортваюцца часам абсалютна непрадказальна. І я не маю пэўнасці ў тым, што наша прыватная станцыя не можа быць аднойчы закрыта распараджэннем якога-небудзь дзяржаўнага чыноўніка. Але калі так не адбудзецца, я веру: мы будзем існаваць, бо нашыя перадачы патрэбныя і цікавыя людзям. А пакуль што мы працуем, у спадзяванні на лепшую будучыню.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

# В Е Р У Е М

## Мова Новага Запавету

63-і год да новай эры: кіраўнік рымскага войска Пампей, скарыстаўшы дынастычныя спрэчкі Юдэі, захапіў Ерусалім, далучыўшы Юдэю да рымскай правінцыі Сірыі і абклаўшы яе данінай. Першым святаром (а значыць, у значнай ступені і мірскім валадаром) ён прызначыў Гіркана II.

Падчас вайны Юлія Цэзара ў Егіпце Гіркан II падтрымаў рымлянаў. У падзяку Цэзар адлучыў Палесціну ад Сірыі, даўшы ёй абмежаваную самастойнасць, і прызначыў Гіркана этнархам, ягонага памочніка Антыпатра — першым пракуратарам Юдэі, а сына Антыпатра — Ірада — стратэгам Галілеі.

Пасля забойства Цэзара ў 44 годзе да н. э. Антыпатр з Ірадам перайшлі на бок ягоных праціўнікаў, а пасля перамогі над імі Антонія — на ягоны бок. За гэта ў 40 г. да н. э. Антоній прызначыў Ірада каралём Юдэі, але той узышоў на свой пасад у Ерусаліме толькі праз тры гады з дапамогай рымлянаў. Сваёй дзейнасцю на карысць акупантаў, парушэннямі нацыянальных і рэлігійных традыцый Ірад выклікаў агульную нянавісць. Пасля смерці Ірада ў 4 г. да н. э. уладу пераднялі ягоныя сыны, але сітуацыя не змянілася — арыстакратыя кіравала народам з дапамогай рымскага войска, акупантам падпарадкоўвалася святарства. У краіне адбыўся шэраг паўстанняў, апошняе з якіх — Юдэйская вайна — скончылася канчатковай стратай краем незалежнасці і ўваходжаннем яго ў склад Рымскай імперыі.

У час вайны ў Юдэі ўзнік шэраг рэлігійных суполак, удзельнікі якіх, парушаючы каноны юдаізму, абвяшчалі прыйсце Збаўцы (месіі), які абвесціць новыя законы існавання людзей, стварыўшы новы (у адрозненне ад кананічнага Старога Запавету) саюз паміж Богам і людзьмі.

валадарства, у якім панавалі б божыя законы, агульны лад і справядлівасць. Найменне **Хрыстос** пачало ўжывацца як імя таго, хто абвесціць і створыць абяцанае прарокам і Старога Запавету валадарства божае на зямлі. Хрыстос як імя Бога пачало выкарыстоўвацца яшчэ да злучэння яго з асобай *Езуса* з Назарэта.

На кайнэ эвангелісты Мацей і Ян звярталіся да ахрышчаных юдэяў, Марк — да навернутых людзей іншых народаў, Лука — да тых, хто ўчора шанаваў багоў Рыма. Дасканала ведаў мову кайнэ, якой ён звяртаўся да жыхароў Грэцыі, Малой Азіі, Палесціны і нават Рыма, апостал Павел. Дасканалай, нават вытанчанай грэцкай мовай напісана пасланне апостала Якуба. Простай, народнай кайнэ напісаныя большасць іншых кніг Новага Запавету і нават частка кніг Старога Запавету — кнігі Товіта, Юдзіф, Мудрасці Саламонавай, прарока Варуха, Пасланне Ярэміі, Малітва Манасіі, I ды II кнігі Макавеяў і асобныя часткі кнігі Данііла. Гэта, дарэчы, стала прычынай таго, што гэтыя дзевяць кніг не прызнаюцца юдаістамі, хаця, напрыклад, уключаны (акрамя Малітвы Манасіі) у праваслаўны Стары Запавет і ўсе без выключэння прызнаюцца каталікамі.

Першыя хрысціяне прызнавалі святой кнігай яўрэйскую Біблію, але карысталіся найбольш поўным, напісаным кайнэ яе варыянтам і ўжывалі прызнаныя толькі імі і напісаныя таксама па-грэцку тэксты, што стварылі пазней Новы Запавет. Мова Элады сапраўды стала мовай новай веры, бо яна, як і навука Хрыста, атрымала прызнанне людзей розных народаў, рэлігій і культур. Але наперадзе яе чакалі цяжкія часы.

«У другім стагоддзі нашае эры праяўляе сваю дзейнасць група людзей, настроеных асабліва патрыятычна. Мэта, якую людзі гэтыя ставяць перад сабою ў галіне мовы — гэта паварот у напрамку літаратурнае мовы залатое пары V і IV стагоддзяў п. н. э. Нягледзячы на падтрымку са стараны чысленых першарадных пісьменнікаў на працягу даўжэйшага часу, рух атыцкі, як яго называна, мэты свае не асягнуў. Пазней (529 г. н. э.), калі на моцы ўрадавага загаду закрываюцца філязафічныя школы ў Атэнах уключна з Атэнскаю Акадэміяю, закладчыкам якое быў сам Плятон, а ў Александрыі на працягу стагодзьдзяў некалі кратна спальваюцца і нішчацца у тамтэйшых бібліятэках, бадай што найбагацейшыя на сьвеце кнігазборы, рух атыцкі спыняе свае існаванне, а літаратурная кайнэ зыходзіць са сцэны, за выняткам некаторых хрысьціянскіх пісьменнікаў, которыя яшчэ карыстаюцца гэтаю мовай», — сведчыць перакладчык Ян Пятроўскі.

Знішчэнне Юдэйскай дзяржавы выклікала міграцыю яе насельніцтва ў межах Рымскай імперыі. Значная колькасць яўрэяў пасялілася ў Сірыі (Дамаску і Антыёхіі), Егіпце (Александрыі), Малой Азіі (Іконіі, Лістры, Пісыдыйскай Антыёхіі), Македоніі (Афінах, Карынфе) ды ў самім Рыме. Менавіта ў асяроддзі гэтай дыяспары і атрымала распаўсюджванне новая навука аб прыйсці Збаўцы (месіі), які, сярод іншага, знішчыць уладу імперыі. Тады ж пачаліся першыя разыходжанні паміж юдаістамі — артадоксамі, што вызнавалі адзінага Бога «абранага народа», і месіянамі, якія трактавалі сваё вучэнне як універсальнае, а не нацыянальнае. Але да паўстання хрысціянства спрычыніўся яшчэ адзін фактар — не рэлігійны ці нацыянальны, а культурны. Ім была грэцкая (для нас — старажытнагрэцкая) мова.

У час росквіту дзяржаўнасці Грэцыі атыцкі дыялект — мова Платона, Эсхіла, Сафокла — замацаваўся ў краіне як літаратурная норма. У IV ст. да н. э. — часе паходаў Аляксандра Македонскага і пашырэння ўплыву Атыкі — мова элінаў пад уплывам моваў заваяваных Аляксандрам Вялікім народаў дала пачатак *кайнэ* — агульнай мове, якая распаўсюджвалася на ўсім велізарным абшары панавання элінскай культуры. І нават праз стагоддзі — пасля распаду дзяржавы Аляксандра Македонскага і ўваходу Грэцыі ў сферу ўплыву Рыма кайнэ, застаўшыся мовай простага народа і носьбітаў грэцкай, вышэйшай за рымскую, культуры, захавалася, стаўшы моваю не толькі грэкаў, але і іншых народаў, у тым ліку і палесцінскай дыяспары.

Для палесцінскіх яўрэяў дзве тысячы гадоў таму крытэрыем баганатхнёнасці тэксту была мова. Яны лічылі, што Яхвэ мог гаварыць са сваім народам толькі па-яўрэйску. Таму менавіта гэтай мовай напісаны 27 кніг Старога Запавету — тэксту, агульнага для Юдэяў і для хрысціянаў.

Але хрысціянства паўстала як рэлігія здзяйснення абяцанняў Старога Запавету — прыйсця Збаўцы, які знішчыць несправядлівасць і дасць людзям новы запавет Бога. Трагічны лёс гэтага Збаўцы — месіі, і каноны новай веры, апісаныя ў кнігах Новага Запавету — чатыры Евангеліі (Добравесці), Дзеянні святых апосталаў, 21 Пасланне ды Апакаліпсіс. Усе яны напісаны на кайнэ, бо паўсталі на сумежжы многіх культур у асяроддзі, што трапіла пад моцны ўплыў традыцый Элады. Аб гэтым сведчыць ужо тое, што нават сам тэрмін «хрысціянства» і найменне яго заснавальніка паходзяць ад **khriō** — дзеяслова, які з грэцкай мовы перакладаецца: «пакрываць алеем». Напачатку гэтае слова мела рэлігійна-абрадавы і нават палітычны сэнс «той, хто пастаўлены на пасад боскай уладай» і датычыла вярхоўных святароў і каралёў. Але дзве тысячы гадоў таму гэтае панясце пачало выкарыстоўвацца ў новым на той час рэлігійным руху, мэтай якога было ўсталяванне новага

Ці маем мы падставы цікавіцца падзеямі, што адбыліся дзве тысячы гадоў таму? Так, маем ужо таму, што яны пакінулі свой след у культуры мноства народаў, у тым ліку і нашага. Праз дзевяць стагоддзяў пасля іх два браты, грэкі Кірыла і Мяфодзій, прыбылі на заселены славянамі абшар з мэтаю пашырэння хрысціянскай веры. Каб мець магчымасць дасканала выканаць сваю місію, яны стварылі на падставе грэцкай, яшчэ з часоў мовы кайнэ, два кірылічныя алфавіты — глаголіцу і кірыліцу, апошняя з якіх выкарыстоўваецца нашым народам ад пачатку беларускай пісьменнасці. Менавіта пад уплывам ідэй хрысціянства сфармаваліся беларусы як нацыя за тысячу гадоў, што мінула з часу хрышчэння Русі, і шэсць стагоддзяў хросту Літвы.

Што яшчэ можа выклікаць нашую цікаўнасць да мовы Атыкі? Сёння, калі наш народ вяртаецца да каштоўнасцей веры, варта ўспомніць словы апостала Паўла, які забараняў святару звяртацца да вернікаў «незнаёмай мовай». «Калі ж няма тлумача, нехай маўчыць у царкве, а гаворыць сабе і «Богу». (Першае пасланне да Карынфян, 14:28). Насуперак таму кананічная літаратура і самая ідэя хрысціянства трапляла да нас альбо ў іншых мовах, альбо ў зробленых з іх перакладах.

Ці будзем мы чытаць Святое Пісьмо ў перакладзе, зробленым з мовы арыгінала? Першыя крокі да гэтага ўжо ёсць. У 1983—1985 гадах Янам Пятроўскім, грамадзянінам ЗША беларускага паходжання, стваральнікам Беларускага фонду міласэрнасці і адукацыі, быў выдадзены ў двух тамах «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік», складзены ім яшчэ ў 1970 годзе. Можна спадзявацца, што гэтыя кнігі стануць падручнікамі новаму пакаленню перакладчыкаў, якія праз два тысячагоддзі паўтораць словы, з якімі звярталіся да нас з далечыні часу Хрыстос і ягоныя вучні.

**Падрыхтаваў У. П.**

---

**На пытанні рэдактара грамадска-культурнага аддзела «Нашага слова» адказвае прарэктар Усходне-Еўрапейскага недзяржаўнага інстытута бізнесу і права, прафесар Ірына НОВІКАВА.**

## Прафесар Ірына Новікава: сучасныя бізнесмены павінны быць высокаадукаванымі і нацыянальна свядомымі

**— Шаноўная Ірына Васільеўна, рыхтуючыся да гэтай гаворкі, я прыгадаў адну з Вашых публікацый у газеце «Добры вечар». Вы даказвалі, што рынак пачаў грунтоўна развівацца ў нашай краіне, калі яна мела найменне — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Потым я чуў ад прафесійных навукоўцаў-гісторыкаў, што яны вельмі пазітыўна аднесліся да Вашых даследаванняў па гісторыі эканамічных дачыненняў ВКЛ. Яны так і сказалі: Ірына Новікава сцірае «белыя плямы» ў эканамічнай біяграфіі Бацькаўшчыны...**

— Дзякую за добрыя словы. Што ж, з гісторыі фактаў, як з песні словаў не выкінеш. У тым ліку — з гісторыі эканомікі нашай Беларускай Дзяржавы. А гэта гісторыя лішні раз сведчыць пра тое, што ў сярэднявеччы краіна станавілася на еўрапейскі шлях развіцця.

**— А цяпер, Ірына Васільеўна, скажыце, калі ласка, пра свой інстытут. Ён існуе другі год, набыў сталасць. Як ставяцца ў ім да нацыянальных і агульнацывілізаваных прыярытэтаў, што безумоўна павінны быць наогул у сістэме вышэйшай школы?**

— Тады, можа, пачнём з таго, што сучасныя бізнесмены ды юрысты павінны быць людзьмі высокай культуры, глыбокіх ведаў і шырокай эрудыцыі. І, дарэчы, добра помніць гісторыю сваёй Айчыны, хаця б — у разрэзе гісторыі сталявання той жа эканомікі альбо права. Ды і беларускую мову, якая з'яўляецца мовай нашай дзяржавы, гэтым спецыялістам варта паважаць і ведаць. Таму роднае слова, як і нейкае іншаземнае, павінна гучаць у нашых аўдыторыях. І ў інстытуце беларуская мова гучыць...

**— Якім чынам?**

— Па-першае, навучанню беларускай мове, як спецыяльнай дысцыпліне, мы на першым курсе адводзім 90 акадэмічных гадзін. З выкладаннем паспяхова спраўляюцца нашы высокакваліфікаваныя «беларусісткі» — Марыя Браніслаўна Драчан і Ларыса Міхайлаўна Сальнікава. Ім, канешне, на пачатку лекцыйнага курса даводзіцца не соладка, бо нашы студэнты, як правіла, у школе мелі не дужа моцную граматычную падрыхтоўку. Некаторыя наогул не вывучалі правапісу роднага слова...

**— Не выступаюць такія студэнты супраць вывучэння беларускай мовы ў сценах ВНУ?**

— Спачатку з іх боку пытанні ўзнікалі. Але ж вельмі лёгка здымаліся з парадку дня, калі мы тлумачылі, што веданне беларускай мовы дапаможа ім вывучыць адну з абавязковых «іншаземных» славянскіх моў, асабліва — польскую ці чэшскую. Бо наш бізнесмен, зразумела, будзе абавязкова мець справы з калегамі ў краінах былога сацыялістычнага лагера, а гэта ў асноўным — краіны славянскага свету...

**— Цікавы падыход, хаця некалькі рацыянальны...**

— Падыход нармальны. Беларускі бізнесмен, які трапляе ў Расію, Польшчу, Чэхію, Балгарыю, павінен ведаць і мову, і культуру, і гісторыю ўласнага народа, хаця б дзеля таго, каб у кампаніі калег выглядаць прыстойна, каб выклікаць у іх павагу і да сябе асабіста, і да народа, чым прадстаўніком ты з'яўляешся, і да дзяржавы, якая цябе падтрымлівае. Вось чаму сёлета мы ўводзім яшчэ адзін курс лекцый па дысцыпліне «Беларусазнаўства»: нашы студэнты глыбей азнаёмяцца з культурай свайго народа, ягоным фальклорам, творчасцю лепшых прадстаўнікоў мастацтва. Бізнесмен павінен разбірацца ў асаблівасцях карцін Міхаіла Савіцкага, і ў музыцы Яўгена Цікоцкага, ці не праўда?

**— Праўда... А яшчэ нейкія лекцыі чытаюцца па-беларуску?**

— Чытаюцца. Гэты курс лекцый прафесара, доктара юрыдычных навук Аляксея Фёдаравіча Вішнеўскага, які, між іншым, загадвае кафедрай у Акадэміі міліцыі, — «Гісторыя дзяржавы і права Беларусі». Курс лекцый вельмі цікавы, беларуская мова тут гучыць нязмушана, натуральна, як і ў пастаянным «гутарковым побыце» самога Аляксея Фёдаравіча. Дарэчы, інстытут падрыхтаваў да выдання падручнік А.Ф.Вішнеўскага па гэтай дысцыпліне. Але ўжо — на расійскай мове, каб ім зацікавіліся не толькі студэнты, але і самыя шырокія колы нашых землякоў, якія захапляюцца гісторыяй і юрыспрудэнцыяй... Чытае па-беларуску гісторыю эканомікі Беларусі кандыдат гістарычных навук Валерый Іванавіч Галубовіч. Чытае цікава, захапляюча...

**— Вы ў гэтым выкладанні асобных дысцыплін на роднай мове не бачыце, прабачце, нейкай палітыкі?**

— Не, не бачу. І Аляксей Фёдаравіч, і Валерый Іванавіч — выдатныя вучоныя, кола іх інтарэсаў — кола праблем ды інтарэсаў іхніх навуковых пошукаў. А мова выкладання — мова кантактавання гэтых людзей у пастаянным побыце. Нам жа, рэктарату інстытута, важна тая грунтоўная інфармацыя, што нясуць студэнтам навукоўцы, метадалогія выкладання дысцыплін, каб нашы падапечныя, якія за сваю адукацыю плацяць грошы, засвоілі ўвесь матэрыял.

**— А якія іншаземныя неславянскія мовы вывучаюць студэнты?**

— Англійскую, нямецкую і французскую — на выбар. Па жаданні студэнта, ён можа факультатыўна вывучыць яшчэ адну: скажам, базавая мова — англійская, калі ласка, вучы яшчэ — нямецкую ці французскую другой мовай...

**— Я ў Вас не пытаю пра эканамічныя дысцыпліны. Іх, відаць, больш чым дастаткова. Але, мне здаецца, ваша ВНУ, хаця і недзяржаўная, хаця і за пэўную плату, дае людзям добрую агульнагуманітарную адукацыю... Так што поспеху інстытуту і яго арганізатарам!**

**Распытваў Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

Згадкі

# А за сталом сядзелі мерцвякі...

Можна прасачыць, калі ў лексіконе савецкіх людзей слова «калхознік» набыло выразна-адмоўную афарбоўку. Не «калгаснік», а «калхознік»! Так пачалі гаварыць пра таго, хто ўсімі праўдамі і няпраўдамі выскачыўшы з прыгоннай камуністычнай вёскі, стараўся гаварыць толькі на расійскай («начальніцкай»!) мове, хоць і з неверагодным акцэнтам, апранацца ў нешта абавязкова замежнае, але які па сваіх чалавечых якасцях заставаўся малаадукаваным (нават нягледзячы на нейкія дыпломы), хамаватым прыстасаванцам, часта гарластым і не здольным рабіць хоць што-небудзь добра, па-гаспадарску, аднак прагным на чужое. Пра сапраўдных сялянземляробаў і ўпартых працаўнікоў так не казалі. Ды іх і мала засталося. У асноўным у вёсцы пачалі пераважаць тыя, хто ўжо ці быў няздольны гаспадарыць, ці так настрашаны, што не адважваўся рабіць самастойна хоць нейкую працу, а чакаў прынукі. Нават само слова «гаспадар» («спадар») некаторых і цяпер страшыць, бо за ім чуецца яшчэ адно, нядаўна страшнае слова — «кулак».

Вядома зараз — куды падзеліся сапраўдныя працаўнікі-земляробы, як распарадзіліся гэтым чалавечым багаццем бальшавікі. Тым не меней кожны раз, калі сустракаешся з дакументальным сведчаннем пра горкі лёс тых нашых землякоўбеларусаў, агортвае вялікая роспач: ну, як так можна было?! Так здарылася і з аўтарам гэтых радкоў пры чытанні ўспамінаў намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Новый мир» Аляксея Кандратовіча, цяпер ужо нябожчыка, дзе ён піша пра змаганне Аляксандра Твардоўскага і яговых паплечнікаў у 1969-пачатку 1970 года за тое, каб народ дазнаўся праўды пра бальшавізм-камунізм. Канец 1968 года быў, як піша аўтар успамінаў, не толькі крахам апошніх ілюзій і спадзяванняў на дэмакратызацыю савецкай сістэмы, але і часам, калі людзям многае адкрылася з бальшавіцкіх злачынстваў супраць уласнага народа і чалавецтва.

Аляксандр Твардоўскі не аднойчы з гонарам казаў, што ў яговых жылах цячэ беларуская кроў. Гэта не дзіва, калі ведаць, што ён родам з заходняй Смаленшчыны. Родныя Твардоўскага ўмелі ўпарта працаваць і хоць не былі заможнымі, тым не менш іх раскулачылі і вывезлі ў Сібір. Аднойчы, піша Кандратовіч, Аляксандр Твардоўскі пасля абмеркавання твораў аўтараў, якія па настрою былі блізкія Салжаніцыну, згадаў такі эпізод: «Мне маці расказвала, а яна не схлусіць. Пайшла аднойчы ў лес па маліну. За Уралам было... Падумаць толькі, колькі людзей... было вырвана з родных гнёздаў і закінута насуперак жадання, насуперак іхняй волі на край свету! І вось убачыла ў лесе баракі. Зайшла ў іх... І пах ужо не пах, а нешта такое... І бачыць, ляжаць упаваль мерцвякі... Некаторыя сядзяць за сталом, іншыя прыхіліліся да сцяны... Хто сядзеў за сталом, уткнуўшыся ў дошку (і А.Т. паказаў гэта), так і застыў і памёр, і ўжо сілы не было, каб падняцца і хаця б легчы. І ўжо не трупы, а нешта высахлае, аголенае, але яшчэ не шкілеты... Маці кінулася бегчы, а там другі барак, трэці... Усё гэта абкружана калючым дротам і ніякай, канешне, аховы — пайшла, некага было вартаваць».

А Поўнач, Сібір былі тады ўсцяж напакаваныя такімі баракамі. Чытайце Салжаніцына, чытайце ўрэшце сваіх — успаміны Сяргея Грахоўскага, Паўла Пруднікава, Аўгена Калубовіча ды іншых беларускіх пакутнікаў. Вось так будаваўся на горы і касцях лепшых працаўнікоў гіганцкі калгас. Дык не дзіва, што нам усё ніяк не выкараскацца на волю, не дзіва, як распараджаюцца некаторыя сваім правам голасу на выбарах — застрашаныя яшчэ з калыскі, не бачыўшыя на сваім вяку нічога, акрамя здратаваных калгасных загонаў.

**Ул.АСІНЕЦ.**

У суседзяў

# Рускія ў Прыбалтыцы: каму пашанцавала?

Цяпер у Расіі пачалі больш пільна вывучаць прыбалтаў. Дэмакратычна настроеныя расійцы — з мэтаю супрацоўніцтва і добра суседзіць, праімперскія колы маюць іншыя мэты. Але ўсе прызнаюцца: толькі цяпер памалу пачынаюць усур'ёз разбірацца — а хто яны такія — гэтыя прыбалтыйскія суседзі, «драбната»*па расійскіх маштабах, якая гэтак упарта змагалася за суверэнітэт, незалежнасць і амаль нейкім цудам свайго дамаглася? Для гэтага спатрэбіўся падзел на «нацыянальныя кватэры», як любілі кпіць прапагандысты гарбачоўскай пары.

Як зазначае карэспандэнт «Известий» Леанід Млечын, які нядаўна, па ўласным прызнанні, нанава адкрыў для сябе Прыбалтыку і напісаў пра гэта серыю цікавых рэпартажаў, нейкая частка расіян і тых рускіх, што жывуць у прыбалтыйскім асяродку, яшчэ і цяпер ніяк не можа паверыць, што час савецкай імперыі мінуў назаўжды. Карэспандэнт «Известий» пераказвае свае гутаркі з саветнікам расійскага пасольства ў Латвіі, які гэтымі праблемамі займаецца прафесійна. Ёсць катэгорыя рускіх, якія, нягледзячы на няпрыязь з боку поўнай часткі прыбалтаў, стараюцца паразумецца з імі і ўрэшце знаходзяць магчымасць для дзейснага супрацоўніцтва. А ў выніку — адыгрываюць усё большую ролю ў сферы камерцыі, у нейкай меры заняўшы тую нішу, якую раней займалі яўрэі. «Але ёсць і поўнае ідэалагічнае непрыняцце таго, што адбываецца ў Прыбалтыцы, — сказаў карэспандэнту саветнік расійскага пасольства. — Сярод пенсіянераў, што пасяліліся ў Рызе ці Таліне, мноства былых вайскоўцаў у немалых чынах, палітработнікаў, тылавікоў. Яны прыклалі нямала высілкаў, дамагаючыся прывілеі атрымаць тут прапіску. І аддзяленне Прыбалтыкі парушыла іх спадзяванні на камфортнае жыццё».

«Цяжэй за ўсё са сваімі, — сказаў карэспандэнту адзін з расійскіх паслоў. — Я ім кажу: зразумейце, СССР больш няма, вы жывяце ў другой краіне. Хочаце тут заставацца — вучыце мову, заводзьце сяброўства з карэнным насельніцтвам. Не чуюць мяне, не хочуць прызнаваць рэальнасці. Які некаторыя расійскія палітыкі, былыя вайскоўцы не разумеюць, што Летува, Латвія, Эстонія — гэта не часовая з'ява, не прыкрая недарэчнасць, якая не сёння—заўтра будзе выпраўлена».

Карэспандэнт «Известий» у сваю чаргу адзначае, што расійскія дыпламаты гаварылі яму даволі раздражнёна, што Масква чамусьці чуе ў асноўным вайсковых пенсіянераў. У той час як у асноўнай масы рускіх у Прыбалтыцы свае праблемы. Зараз найгоршая сітуацыя ў Эстоніі. У Латвіі пасля прыняцця закона аб грамадзянах былога СССР людзі атрымалі магчымасць выязджаць, прыязджаць, валодаць жыллём. Адразу ў выніку прыкметна паменшылася колькасць тых, хто жадаў атрымаць расійскае грамадзянства. Любы, хто меў савецкі пашпарт, меў права атрымаць расійскае грамадзянства, аднак большыня вырашыла лепей застацца ўвогуле без грамадзянства, чым узяць расійскі пашпарт.

Ёсць рускія, якія атрымалі правы грамадзянства, адзначае карэспандэнт. Так, у Летуве грамадзянства было дадзена ўсім, але там сітуацыя з нетутэйшымі іншая. Шматгадовы першы сакратар ЦК кампартыі Летувы Снечкус усімі праўдамі і няпраўдамі не дазваляў Маскве будаваць у сваёй краіне прамысловыя гіганты, дзеля працы на якіх людзей звозілі б з усяе Расіі і СССР. У Латвіі і Эстоніі грамадзянства атрымалі ў першую чаргу тыя, чые продкі жылі на тэрыторыі гэтых рэспублік да 1940 года і якія патрыятычна ставяцца да сваёй новай радзімы. Тым не менш, адзначае карэспандэнт, многія спадзяюцца з часам атрымаць грамадзянства і **актыўна вучаць дзяржаўную мову, аддаюць дзяцей не ў рускамоўныя, а ў эстонскія, летувіскія, латышскія школы. Сацыялагічныя апытанні сведчаць: больш паловы апытаных рускіх мяркуюць, што ў Латвіі ў іх больш магчымасцей, чымся пры пераездзе ў Расію.** Вось вам і маленькая краіна.

— Грамадзянін Латвіі рускага паходжання дыскрымінацыі не адчувае, — сказаў карэспандэнту «Известий» вядомы рыжскі драматург Владлен Дазорцаў. — Наадварот, да яго ставяцца з асаблівай увагай. Таму што хочуць даказаць — яны не падзяляюць людзей па этнічнай прыкмеце.

Дарэчы, некаторая частка і нашых, беларускіх, маладых прадпрымальнікаў робіць захады, каб перабрацца ў Латвію, асабліва ў Рыгу, дзе заканадаўства садзейнічае развіццю бізнесу, прыватнай ініцыятывы. Калі гэта набудзе масавы характар, Беларусь рызыкуе страціць не толькі свае лепшыя навуковыя кадры (зараз па некаторых звестках з Беларусі падалося на Захад каля 200 тысяч найбольш падрыхтаваных навуковых спецыялістаў), але і тых, хто здольны займацца прадпрымальніцтвам, і тады наша краіна канчаткова рызыкуе ператварыцца ў рэзервацыю калгасных пенсіянераў альбо вымушана будзе будаваць сваю «берлінскую сцяну», што ўжо, кажуць, і распачынаецца з дапамогай расійскіх пагранічнікаў.

Сам згаданы вышэй Дазорцаў жыве ў Латвіі з 1951 года, калі быў яшчэ пяцікласнікам. Ён быў адным з агітатараў Народнага фронту, абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета. Некаторыя літаратары Беларусі сярэдняга пакалення знаёмы з ім не толькі як з таленавітым драматургам, але і як з галоўным рэдактарам папулярнага рускамоўнага часопіса «Даўгава» — пабраціма нашага «Нёмана». Тым не меней ён, хто ўнёс такі вялікі ўклад у дасягненне латвійскай незалежнасці, правоў на грамадзянства не атрымаў. Самі ўлады, зазначае карэспандэнт, зразумелі гэтакі нонсенс і некалькі месяцаў таму Владлену Дазорцаву далі грамадзянства ў знак прызнання яговых заслуг перад Латвіяй. Дазорцаў плануе балатавацца на выбарах у парламент ад Партыі народнай згоды, таму яму давялося здаць экзамен на веданне латышскай мовы, што ён паспяхова і зрабіў.

Што да неграмадзян, зазначае карэспандэнт, то ўсё залежыць ад іх саміх. Той, хто займаецца бізнесам, дыскрымінацыі не адчувае. Ёсць абмежаванні, але іх лёгка абыходзяць. У рускіх фірмах, напрыклад, бяруць на ролю зітц-старшынь латышоў ці эстонцаў, на іх імя купляецца зямельны ўчастак, бо валодаць зямлёй мае права толькі той, хто атрымаў грамадзянства.

— Ці ж настроены рускія варожа да новых парадкаў? — спытаў карэспандэнт у Владлена Дазорцава.

— За выключэннем вельмі невялікіх груп, рускія палітыкай тут не займаюцца, — адказаў той.

— У цэлым рускія выключна лаяльныя да мясцовай улады, — сказала карэспандэнту «Известий» Ларыса Якаўлева, кіраўнік Цэнтра інфармацыі па правах чалавека ў Эстоніі.

— На парламенцкіх выбарах 70 працэнтаў рускіх галасавалі не за рускую партыю, а за эстонскія партыі, — сказаў віцэ-канцлер міністэрства замежных спраў Эстоніі Раўль Мялк.

Карэспандэнт урэшце прыйшоў да высновы, што ў Прыбалтыцы ў асноўным жывуць рускія, якія лічаць свае краіны радзімай, гэта свайго роду балтыйскія рускія.

Той жа Владлен Дазорцаў, які вельмі ўважліва вывучае гэтую сітуацыю, адзначае, што ў Прыбалтыцы зусім іншыя рускія, чымся ў Расіі, за выключэннем тых, хто нядаўна прыехаў. У іх самапачуванне, менталітэт, паводзіны, звычкі балтыйцаў. Яны нават гавораць у танальнасці, якая характэрна для мясцовага насельніцтва, і наогул паводзяць сябе, як карэнныя прыбалты.

У кожным з прыбалтыйскіх расійскіх пасольстваў карэспандэнту расказвалі пра рускія сем'і, якія спачатку перасяліліся на «гістарычную радзіму», куды-небудзь у Расію, але ўрэшце вярнуліся, бо не змаглі там прыжыцца.

— Я рускі па паходжанні, але эстонец па спосабу жыцця, — тлумачыў карэспандэнту дэпутат эстонскага парламента Сяргей Іваноў. — Я вучыўся ў Піцеры, выхаваны на рускай культуры, а жыць хачу тут. Тут усё маё. У Расіі жыць не змагу...

— Гэта ў Эстоніі мы рускія, а ў Расіі мы эстонцы, — сказаў карэспандэнту яшчэ адзін дэпутат парламента Эстоніі Мікалай Маспанаў, прадпрымальнік, у мінулым вучоны-хімік.

Вялікая сям'я Маспанавых даўно жыве ў Эстоніі. Двое яго братоў, адзначае карэспандэнт, часцей размаўляюць па-эстонску, чымся па-руску.

Словам, неяк пашанцавала прыбалтам на сваіх рускіх. Хутчэй за ўсё таму, што прыбалты імкнуліся заставацца самі сабою — са сваімі культурнымі асаблівасцямі, сваёй моваў, і толькі нязначная частка імкнулася стаць імперскімі прыстасаванцамі.

Тым не менш, заўважае карэспандэнт «Известий», многім расіянам прыбалты і цяпер здаюцца ганарыстымі, высакамернымі. Яшчэ многа такіх, хто ўпэўнены, што тры прыбалтыйскія рэспублікі — гэта проста маленькія, злосныя, нават фашысцкія дзяржавы, якія ператварылі некарэнных жыхароў у людзей другога гатунку. Словам, піша журналіст, гісторыя ўзаемаадносін расійцаў і прыбалтаў — гэта перш за ўсё гісторыя пра тое, што іншым разам людзі абсалютна не здольныя зразумець адзін аднаго. Стварэнне дзяржаў прыбалтаў было шчасцем не толькі для палітычнай эліты, якая атрымала магчымасць дзяліць старыя пасты і ствараць новыя. Не толькі для інтэлектуальнай эліты, што ўбачыла, як ажыццяўляецца нацыянальная ідэя. **Прыбалты ў цэлым хацелі застацца сам на сам.** Ім было няўтульна ў вялікім і чужым гармідары імперыі. Тэмперамент, менталітэт, традыцыі і прывычкі латышоў, летувісаў і эстонцаў (пры ўсіх адрозненнях паміж гэтымі народамі), — усё было супраць сумеснага пражывання ў вялікай савецкай камунальнай кватэры. Нават даўнія гарадскія жыхары тут з цяжкасцю пераносяць занадта цесныя ўзаемаадносіны, не кажучы пра сялян. Яны імкнуцца трымаць суседзяў хаця б на адлегласці выцягнутай рукі, піша журналіст. «Трапіць да латыша ў кватэру, — заўважае пасол Расіі ў Латвіі Аляксандр Ранніх, — гэта яшчэ трэба заслужыць».

Як піша Леанід Млечын, прыбалты яму падаліся хутчэй няўпэўненымі ў сабе. Яны па-ранейшаму з недаверам ставяцца да Расіі і баяцца вечна жыць у яе цяню. Прыбалтаў трэба нарэшце пакінуць у спакоі, робіць мудрую выснову журналіст «Известий», і тады праз колькі часу ўсё будзе ў парадку. Бо гэта людзі, якія маюць уласную годнасць і не развучыліся гаспадарыць на ўласнай зямлі. Тут меней ахвотна прызнаюць свае цяжкасці, менш імкнуцца скуголіць, скардзіцца. Ужо зараз з пункту гледжання рэфармавання свайго жыцця, набліжэння да нармальных умоў прыбалты абагналі іншыя рэспублікі былога СССР, хоць напачатку цярпелі вялікія цяжкасці. Тым не менш яшчэ ў мінулым годзе пачаўся рост унутранага валавога прадукта — 3-4 працэнты ў год. Зарплаты і цэны можна параўнаць з расійскімі, але сама якасць жыцця лепшая, чымся ў Расіі. Агульны настрой — адчуванне ўздыму, ганару за стварэнне ўласнай дзяржавы.

Варта прывесці заключныя радкі аднаго з ёмістых рэпартажаў Леаніда Млечына: «Бязмежна тужлівым было ў савецкі час падарожжа з Прыбалтыкі ў Расію. Як толькі поезд пакідаў цалкам камфортную, чысценькую Прыбалтыку, дык адразу пачыналася карціна такога жабрацтва і закінутасці, што сэрца шчыміла. Я пяць гадоў не ездзіў па той дарозе і думаў, што ўсё змянілася, памыліўся. Як мінулі граніцу, так пайшлі ўсе тыя ж тужлівыя карціны, быццам савецкая ўлада ўсё яшчэ кіруе ў паласе адчужэння Прыбалтыйскай чыгункі з расійскага боку.

А наш «паравоз» усё кіруюць ды кіруюць у той бок. Парадуемся за прыбалтаў».

**Ул.АС.**

# Кола сям'і

Здароўе

## Рацыянальна ці прыгожа?

**(Адзенне дзіцяці: розныя меркаванні)**

Як апранаць дзяцей — пытанне досыць актуальнае. Разгледзім яго не ў дачыненні фізічных якасцяў адзення — «цёплае — халоднае», «натуральнае — штучнае», а з эстэтычнага пункту гледжання.

Напачатку працытуем цікавы ўрывак на гэтую тэму з «Кнігі пра культуру быта» Я. і М.Нікольскіх, якая выйшла ў выдавецтве ВЦСПС у 1963 годзе. Кніга нясе на сабе адбітак часу «адлігі», калі савецкая інтэлігенцыя імкнулася «абсучасніць» вобраз жыцця грамадства, выйсці з «уніформы».

«Нярэдка можна чуць спрэчкі з нагоды таго, ці патрэбнае дзіцяці прыгожае адзенне, ці не педагагічней прад'яўляць да яе толькі патрабаванні зручнасці і гігіены.

Многія лічаць, што клопат бацькоў пра прыгожае адзенне дзіцяці ўзбуджае ў ім павышаную і пазаўчасную цікавасць да сваёй знешнасці, выхоўвае какецтва і пыхлівасць.

І сапраўды, сустракаюцца яшчэ дзяўчынкі ў прыгожых сукенках, багата прыкрашаных стужкамі і карункамі, з велізарнымі бантамі ў вычварна прыбраных валасах ці ў капялюшыках, відавочна, не адпаведных узросту. З пачуццём перавагі, манерна выступае такая пяцігадовая істота, бо баіцца памяць сукенку ці сапсаваць фрызуру, і выклікае недаўменне ў дарослых і іранічныя, насмешлівыя заўвагі ў равеснікаў...

Апранаць дзіця патрэбна не шыкоўна і дорага, не занадта ўрачыста і какетліва, а проста, сціпла, вытанчана, адпаведна ўзросту».

У прыведзенай цытаце абазначана асноўная праблема ў поглядах на адзенне дзіцяці — што найважней — прыгожа ці зручна?

У «Энцыклапедыі маладой сям'і», выдадзенай у 1988 годзе ў Менску, сказана: «Асноўнае патрабаванне да дзіцячага адзення — яго рацыянальнасць. Яно павінна забяспечыць дзіцяці ў першую чаргу камфорт і спрыяльны мікраклімат. Эстэтычныя патрабаванні таксама высокія, аднак стаяць на другім плане. Таму бацькам, якія выбіраюць адзенне для малых, трэба ўлічваць перш за ўсё яе цеплаізалюючыя ўласцівасці, лёгкасць, зручнасць пакрою. Дзіцячае адзенне не павінна перашкаджаць рухам дзіцяці і парушаць фізіялагічныя функцыі скуры...»

Доктар Бенджамін Спок наконт адзення для дзяцей выказвае таксама толькі рацыянальныя патрабаванні: «У прыгожых сукенках дзіця выглядае вельмі міла, але на першы час у іх няма ніякай неабходнасці. Яны прыносяць толькі клопаты і дзіцяці, і маці...» Падобных жа поглядаў прытрымліваліся Януш Корчак і сучасныя расійскія педагогі-наватары Нікіціны. Эстэтычны фактар у ацэнцы дзіцячага адзення імі не ўлічваецца. Што, на нашу думку, у гэтых выпадках тлумачыцца цяжкімі матэрыяльнымі варункамі выхаванцаў і выхавацеляў (Януш Корчак меў справу з беднай габрэйскай дзятвой Польшчы, Нікіціны — шматдзетная сям'я з праслойкі незаможнай савецкай інтэлігенцыі). Няўжо прыгожа апранаць дзяцей — непедагагічна? А як вырашае гэтую праблему народная педагогіка? У кнізе «Беларуская народная педагогіка» Г.П.Арловай зазначаецца: «Дзеля таго, каб выхаваць добрых майстрых, дзяўчынак з ранніх гадоў вучылі, як вырошчваць лён, апрацоўваць яго, адбельваць у росах, прасці ніткі, ткаць палатно, фарбаваць яго ў патрэбны колер, як правільна ў адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі стварыць на тканіне ўзор, зрабіць вышыўку». З гэтага вынікае, што дзецям з маленства прышчэпліваўся погляд на прыгожае адзенне перш за ўсё як на дэманстрацыю ўмельства майстрых сям'і. Прынамсі, на адзенне святочнае, «пасажнае» погляд быў пераважна эстэтычны. Дзіця, кепска апранутае ў свята, сведчыла пра нястачу ў гэтай сям'і, нядбальства яе майстрых ці што пра дзяцей не клапоцяцца.

У той жа час ніхто не можа адпрэчыць рацыянальнасці народнага адзення — прызначанага для дзяцей ці дарослых. Тым больш, што асаблівай спецыфікі, адрознення ў фасонах дзіцячае і дарослае адзенне не мела. А як апранала сваіх дзяцей шляхта? Аўтарка знакамітай «Гаспадыні літоўскай» гаворыць: «Маладыя паненкі павінны дзень і ноч насіць пальчаткі ці пульсеткі, інакш рукі іх ніколі не будуць белымі і далікатнымі. Шмат якія мацеры лічаць, што пальчаткі, асабліва на кончыках пальцаў, мусяць быць цеснымі...

Кажучы аб доглядзе за рукамі, мушу дадаць, што і ногі патрабуюць гэткіх жа клопатаў. Нельга ім даваць залішне расці з дзяцінства, наадварот, неабходна сціскаць іх абуткам цесным і трохі больш доўгім, чым ступня, і абавязкова яго зменьваць, як толькі пачне выходзіць з формы...»

Відавочна, што тут найважнейшай з'яўляецца менавіта эстэтычная функцыя адзення, прычым настолькі, што можа быць перашкодай чыста функцыянальнай ролі (цесны абутак, у якім цяжка хадзіць, пальчаткі, у якіх горача ўлетку і якія сціскаюць пальцы і дзень і ноч...). Дарэчы, як ні ўспомніць звычаі Кітая, што панавалі аж да пачатку гэтага стагоддзя. У кнізе «Кітай: старонкі мінулага» В.Я.Сідзікменава чытаем: «Адзнакай вытанчанасці жанчыны, асабліва з заможных слаёў грамадства, лічыліся маленькія ножкі і пляскатыя грудзі...

Каб нага набыла дугападобную форму, дзяўчынкам у 6—7-гадовым узросце падгіналі ўсе пальцы, акрамя вялікага, да падэшвы і моцна прывязвалі іх бінтамі. Кожны тыдзень бінты шчыльна зацягваліся. Так працягвалася датуль, пакуль падэшва не набывала дугападобную форму. Гэта працэдура выклікала ў дзяўчынак моцныя болі, ногі часта нямелі...

...дзяўчынцы ўжо ва ўзросце 10—14 год грудзі сцягвалі палатняным бінтам, спецыяльным станікам ці асаблівым гарсэтам. Развіццё грудных залозаў прыпынялася, рэзка абмяжоўвалася рухомасць грудной клеткі і сілкаванне арганізма кіслародам...»

Бадай што хопіць апісанняў падобных «экзатычных» звычаяў. Хаця эстэтычная функцыя ў іх — мэта і змест, але прыгажосці няма. Таму, на наш погляд, у дзіцячым адзенні не павінна дамінаваць ні адна рацыянальнасць — кожная маці можа і павінна апрануць сваё дзіця прыгожа; ні эстэтызацыя — дзіця малое і без усялякага адзення, і трэба, каб кожнае падзенне на пясок не ператваралася ў трагедыю сямейнага маштабу з прычыны запэцканага супердэфіцытнага касцюмчыка...Павучымся ў продкаў — прыгажосць — сваімі рукамі, і — зручнасць.

**Л.ШНІП.**

*Таццяна ФАМІНА, кандыдат медыцынскіх навук*

## Неўроз неадчэпнага стану

Неўроз неадчэпнага стану часцей надараецца ў людзей, рысы характару якіх адпавядаюць т.зв. мысліцельнаму тыпу вышэйшай нервовай дзейнасці. (Менавіта такія асобы схільныя і да псіхастэніі — такой формы неўрозу, калі чалавек увесь час адчувае няўпэўненасць і трывогу.)

Вылучаюць тры віды неўрозу неадчэпнага стану: калі чалавека турбуюць неадчэпныя думкі; калі хворага адольвае страх; калі чалавек апантаны начэпнымі рухамі.

**Неадчэпныя думкі** — гэта асобныя нягожыя думкі і несуразныя фразы, што ўвесь час круцяцца ў галаве і адвольна паўтараюцца. Але асобы, якія пакутуюць на гэты від неўрозу, могуць паўтараць і пэўную абрыдлую мелодыю, паўтараюць і запамінаюць розныя дробязі, што не маюць ніякай вартасці.

**Неадчэпныя страхі** (іх яшчэ называюць фобіямі) — гэта боязь захварэць на якую-небудзь невылечную хваробу, а таксама боязь нейкіх прыкрых выпадкаў, вышыні, адзіноты. Хворыя разумеюць беспадстаўнасць такой боязі, але не могуць яе адолець.

Неадчэпныя страхі, відавочна, маюць рэальную падставу. Звычайна гэта — выпадковыя здарэнні, сітуацыі, нейчыя роспавяды. У некаторых хвараблівая перасцярога можа знікнуць разам з прыкрым успамінам, выпадковым болем — сціраюцца з памяці выпадкі і абставіны, праз якія ўзнікла боязь. Камусьці ўдаецца перамагчы свае страхі папярэднімі абачлівымі «рытуаламі»: людзі плююць цераз левае плячо, стукаюць пучкамі аб штосьці драўлянае, «паказваюць» фігу ў кішэні.

Не трэба думаць, што розныя фобіі ды перасцярогі ад іх уласцівыя толькі неадукаваным, забабонным людзям. Спыталі неяк у адной славутай французскай доктаркі-анколага, ці праўда, што медзь запабягае анкалагічным захворванням, дык тая адказала адмоўна, але паказала: сама яна носіць медны бранзалет. Іншы прыклад. Цяпер нават сур'ёзныя навукоўцы сцвярджаюць, што асланіць сябе ад злога можна перахрысціўшыся — гэтая засцярога дзейнічае, нібы сорак хвілінаў.

Пра асобныя выпадкі неадчэпных страхаў і спосабы іх лячэння пішуць апошнім часам і газеты. Падаюць прыклад галандскай дзяўчыны, якая мучылася адной нетыповай фобіяй. Яна вельмі баялася, што яе могуць згвалціць. Больш таго, яна нават уяўляла, як гэта здарыцца. Аднойчы яна будзе ехаць на веласіпедзе.... Так, дарэчы, і адбылося. З кустоў напярэймы да яе кінуўся незнаёмец, збіў яе з веласіпеда. На крык дзяўчыны прыбеглі людзі, што выпадкова былі непадалёку. Ды ўсё ж пасля гэтага прыкрага выпадку хворай (ужо можна яе так называць) пачала ўяўляцца небяспека амаль за кожным дрэвам. Яна вымушана была звярнуцца да вядомых дактароў Роба Бонтэнбала і Цінеке Нордэграф. Яны — спецыялісты па так званай рэінкарнацыйнай тэрапіі. (Яна заснавана на вучэнні пра рэінкарнацыю — перасяленне душаў.) Бонтэнбал і Нордэграф перакананыя: чалавек, які ў гэтым жыцці адчувае сябе ахвярай, у адным з мінулых сваіх жыццяў быў злачынцам. З дапамогай спецыяльнай методыкі глыбокага гіпнозу яны могуць ахунуць чалавека-пацыента ў ... ягоную памяць. І калі выяўляюць прычыну фобіі, то адпаведным спосабам лечаць хворага.

На гіпнатычных сеансах з галандскай дзяўчынай выявілася, што ў адным з сваіх былых жыццяў яна была згвалчана ў ляснай карчме, тады ж і загінула. Але і пасля таго, як дактары выявілі гэтую прычыну неўрозу і правялі адпаведнае лячэнне, страх не пакінуў дзяўчыну. Дактары вырашылі, што сапраўдная прычына не адшуканая. Пасля некалькіх чарговых «вяртанняў» у мінулыя жыцці, дзе яна была жанчынай, «пацыентка» аднойчы падчас сеанса рэінкарнацыйнай тэрапіі загаварыла мужчынскім голасам. Калі яе запыталі, чаму так адбываецца, то яна паведаміла, што яна — мужчына, воін, вартуе маладых рабынь. Далей дактары даведаліся, што ноччу вартаўнік даў волю сваёй пажадзі — ён гвалціў... У наступныя свае жыцці гвалтаўнік мусіў адпакутаваць за свае колішнія ўчынкі.

Рэінкарнацыйныя тэрапеўты, дарэчы, вылечылі сваю пацыентку.

**Начэпныя рухі**. Гэты від неўрозу неадчэпнага стану выяўляецца праз неадольную цягу да пэўных нематываваных рухаў. Прыкладам, хворы зачэпіць штонебудзь рукой і тут жа абавязкова паўторыць гэты рух, хоць рабіць гэта няма патрэбы. Можна дапусціць, што некаторыя начэпныя рухі ўзніклі ад пэўных страхаў і трывогі ў мінулым. Але большасць узнікае ад частага паўтарэння свядомых рухаў і дзеянняў. Так яны становяцца звычкамі, часам нават неадольнымі. Адзін з тыповых начэпных рухаў — звычка грызці ногці.

Начэпныя рухі праяўляюцца таксама ў выглядзе так званых цікаў — сутаргавых аднатыпных рухаў: мірганне, крыўлянне, кашлянне ды іншыя.

Вядома, не ў кожным выпадку трэба шукаць дапамогі ў такіх славутых спецыялістаў, як згаданыя раней, але калі не дапаможа самакантроль і самапрымус, то варта звярнуцца па дапамогу да псіхатэрапеўта ці псіханеўролага.

## Мудрыя гавораць...

**Рунаскэ Акутагава** нарадзіўся раніцай 1 сакавіка 1892 года, у *гадзіну Цмока, дня Цмока месяца Цмока*. Таму і мае імя Рунаскэ — цмок. Калі яму споўнілася дзевяць месяцаў, яго маці звар'яцела. І наўрад ці хто мог прадказаць тады, што асірацелае немаўля зробіцца гонарам японскай літаратуры, сусветна вядомым пісьменнікам. Акутагава сцвярджаў, што літаратура павінна займацца не апісаннем пачуццяў, а даследаваннем, аналізам псіхалогіі. А інструментам гэтага аналізу павінна быць падзея.

Адзінай, непаўторнай, значнай рэальнасцю жыцця для Акутагавы было мастацтва. «Чалавечае жыццё не вартае і аднаго радка Бадлера», — пісаў ён. Мастацтва дае мастаку найвышэйшыя радасці, выкупляе любыя ахвяры і злачынствы. А між тым, у літаратурны свет Японіі ўладарна прыйшоў дух камерцыялізацыі. Вызначаць усе шляхі развіцця літаратуры пачаў выдавец. Майстры інтэлектуальнай прозы пачалі вучыцца пісаць дэтэктывы і прыгодніцкія раманы. За ўзор бралася амерыканская «бульварная» літаратура і «літаратурная фабрыка» Дзюма-бацькі, калі гаротныя студэнты за капейкі сачынялі для «мэтраў» сюжэты і пісалі чарнавікі. Пачалі здарацца самагубствы сярод найлепшых пісьменнікаў.

З адэптаў «вялікай літаратуры» можа быць толькі адзін Рунаскэ Акутагава не схіліў галавы. Яго талент служыў яму гарантам чытацкай увагі і абаронай ад прэтэнзій выдаўцоў. Акутагава працаваў як апантаны. *Ён шукаў усё новых адкрыццяў.* Прынцып вярхоўнасці мастацтва больш не задавальняе яго. Але нарастае ўнутраны разлад пісьменніка з самім сабою. Улюбёнае мастацтва робіцца дэманам вялікай спакусы.

У 1927 годзе ва ўзросце 36 гадоў Рунаскэ Акутагава атруціўся.

Прапануем чытачам «Нашага слова» пазнаёміцца з некаторымі выказваннямі вялікага японскага пісьменніка, асобы велічнай і трагічнай:

*Ідыёт упэўнены, што ўсе, акрамя яго, — ідыёты.*

*Больш за ўсё нам хочацца ганарыцца тым, чаго ў нас няма*

*Закаханы рэдка бачыць сапраўдныя рысы твару свайго каханага.*

*Калі нас ахоплівае каханне, мы падманваем сябе найлепшым чынам.*

*Чалавечае жыццё падобнае да пачка запалак. Адносіцца да яго сур'ёзна — смешна. Адносіцца несур'ёзна — небяспечна.*

*Моцны чалавек не баіцца ворагаў, затое баіцца сяброў. Валячы адным ударам ворага, ён не адчувае ніякай прыкрасці, але мімаволі зраніць сябра баіцца, як жанчына.*

*Слабы не баіцца сяброў, але баіцца ворагаў. І таму ў кожным бачыць ворага.*

*Бацькоўская любоў — любоў самая бескарыслівая. Але адданая любоў не вельмі здатная для выхавання дзяцей. Пад уплывам такой любові — па меншай меры, галоўным чынам пад уплывам такой любові — дзіця робіцца альбо дэспатам, альбо слабавольным.*

*Здавён большасць бацькоў паўтарае такія словы: «Я, урэшце, няўдачнік. Але маё дзіця павінна дабіцца поспеху».*

*Жанчына не заўсёды хоча мець мужам добрага чалавека. Але мужчына заўсёды хоча мець за сябра добрага чалавека.*

*Мастацтва падобнае да жанчыны. Каб выглядаць як мага прыгажэй, яно мусіць быць ахутанае духоўнай атмасферай свайго часу ці апранутае ў адзежу па модзе свайго часу.*

*Цярплівасць — рамантычная баязлівасць.*

*Адзін з сімптомаў кахання — гэта думка, што «яна» ў мінулым кагосьці кахала, жаданне даведацца, хто ён, той, каго «яна» кахала, ці што ён быў за чалавек, і пачуццё цьмянай рэўнасці да гэтага ўяўнага чалавека.*

*Яшчэ адзін сімптом кахання — гэта хваравітае імкненне знаходзіць твары, падобныя да «яе».*

*Шлюб карысны для супакаення пачуццёвасці. Для супакаення кахання ён бескарысны.*

*Нас ратуе ад кахання не столькі розум, колькі занятасць. Каханне... Для ідэальнага кахання перш за ўсё патрэбны час. Успомніце каханкаў мінулага — Вертэра, Рамео, Трыстана: усе яны былі людзі бяздзейныя.*

*Калі жанчына ахоплена жарсцю, з твару яна чамусьці робіцца падобная да дзяўчынкі: Праўда, гэтая жарсць можа быць скіраваная і на парасон.*

*Чаму мы любім маленькіх дзяцей? Ды хаця б таму, што дзіця ніколі не падмане, гэтага можна не баяцца.*

*Каханне — гэта палавое пачуццё, выказанае паэтычна. Па меншай меры, не выказанае паэтычна палавое пачуццё не заслугоўвае назвы кахання.*

Вучымся

Культура мовы

# Кандраце, мой голубе...

У граматыцы беларускае мовы зараз вызначаецца шэсць склонаў назоўніка — назоўны, родны, давальны, вінавальны, творны, месны. Але ж існуе і сёмы склон — клічны. Бяром «Беларускую граматыку для школ» Б.Тарашкевіча (Вільня, 1929). На старонцы 74 напісана: «**IV. Клічны склон**. У значэнні клічнага склону звычайна ўжываецца назоўны склон: паслухай, *братка*! паслухайце, *браткі*! Але клічны склон мае і свае асобныя канчаткі **-у** і **-е** (пасля цвёрдага зычнага **-а**):

1) Іване, слаўны пане! браце, сваце, дубе, суседзе і г.д.

2) коню, вучыцелю, госцю, дабрадзею, братку, галубочку, дзедку, сынку і г.д.

У множным ліку часта ўжываецца канчатак **-ове**: панове! сватове!»

Да сказанага Б.Тарашкевічам трэба дадаць, што, акрамя **коню**, як зварот да каня, ужываецца і **косю (кося)**.

Калі разважаць аб варыянтнасці канчаткаў адзіночнага ліку, клічнага склону, дык можна прывесці прыклад паралельнага ўжывання абодвух канчаткаў у адным слове:

«**Госпаду** Ісусе Хрысьце, Сыне Божы...»

*(Праваслаўны малітоўнік, Беласток, 1990. С.31).*

«**Госпадзе** Ісусе Хрысьце, Сыне Божы...»

*(Беларускі праваслаўны малітоўнік, Таронта, Канада, 1990. С.28).*

Як вядома, у беларускай літаратуры клічны склон можна сустрэць нярэдка. Гэтак, у 1942 г. Якуб Колас у вершы «Над магілаю друга» (памяці Янкі Купалы) ужывае: **дружа, браце, саколю, баяне, гусляру**. Ці Янка Купала:

*Чаго вам хочацца,*
*__панове__?*
*Які вас выклікаў прымус*
*забіць трывогу аб той*
*мове,*
*Якой азваўся беларус?*
*(Ворагам беларушчыны, 1907)*

Гэткіх прыкладаў можна прыводзіць шмат. У «Нашым слове» (1995, № 27) А.Мікалайчанка піша: «Знарок, шаноўны **Яраславе**, знарок...»

Можна ўспомніць, што і ў расійскай мове сустракаецца падобнае: **Господи, Боже**. А.Пушкін пісаў: «Чего тебе надобно, **старче?**» У.Высоцкі спяваў: «Только вдруг, **человече**, опомнись...». У лацінскай мове вызначаецца так: nominativus (назоўны), genetivus (родны), dativus (давальны), accusativus (вінавальны), ablativus (творны, месны), vocativus (клічны). Гэтак, напрыклад, назоўнік **lupus** (мн. **lupi**) — **воўк** у клічным склоне будзе: **lupĕ** (мн. **lupi**). У беларускім фальклоры існуе прыказка: «А ты, воўча, сядзі моўча». Некаторыя лічаць, што ў дыялектнай беларускай мове прысутнічае форма клічнага склону. Але ж, як бачна з прыкладаў, ужывалі і ўжываюць (і вельмі ўдала) майстры літаратурнай мовы клічны склон. Таму нельга гаварыць пра ягоную дыялектнасць.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

ACADEMIA «NS»

Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Заканчэнне.)*

***«У час свайго знаходжання ў Полацку ён (кароль Стэфан Баторы) кожны дзень наведваў калегію, якая тут будавалася, а потым у перапісцы са Скаргаю выказваў самую пяшчотную заклапочанасць аб яе зручнасцях».***
***А.ДЗЕМ'ЯНОВІЧ.** Езуіты ў Заходняй Расіі.*

## Беларуская мова ў школах Вялікага Княства Літоўскага

**Пратэстанцкія школы**. У адрозненне ад гуманізму, які стаў лёсам адукаваных, Рэфармацыя ахапіла намнога больш шырокае кола людзей. Рэфармацыйны рух на Беларусі, як гаварылася вышэй, быў часткай еўрапейскага працэсу. Спачатку з патрабаваннямі рэформы каталіцкай царквы выступіла феадальная знаць, частка яе васалаў, дробная і сярэдняя шляхта, а таксама сяляне і гараджане. Агульным было імкненне вызваліцца ад цяжару падаткаў на царкоўны клір, зрабіць царкву больш таннай, абмежаваць прывілеі духоўных і свецкіх феадалаў. Асабліва настойлівы пратэст выклікала наяўнасць у гарадах юрыдык — участкаў зямлі, якія знаходзіліся пад уладай або феадалаў, або царквы. На насельніцтва, якое ў іх пражывала, не пашыралася ўлада органаў мясцовага самакіравання — магістратаў, створаных у адпаведнасці з Магдэбургскім правам. Людзі з розным дастаткам спачувальна ўспрынялі ідэі кальвінізму, які адводзіў цэнтральнае месца вучэнню аб наканаванасці. У гэтым вучэнні, прагрэсіўным для свайго часу, не заставалася месца для знатнасці, высакароднасці паходжання, розных прывілеяў, бо не імі прадвызначалася выратаванне. Кальвінісцкая царква была незалежнай ад Рыма. Яе ўмацаванне на Беларусі звязваецца з імем віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага. У 1553 г. ён заснаваў у Вільні кальвінісцкую абшчыну. Следам за ёй пратэстанцкія абшчыны ўзніклі ў іншых гарадах. К 60-м гадам XVI ст. у пратэстантызм перайшла значная частка феадалаў. У сваіх уладаннях яны канфіскоўвалі землі каталіцкай царквы. Толькі Мікалай Радзівіл Чорны закрыў 187 касцёлаў. У пратэстанцкіх школах вучыліся пераважна дзеці феадалаў і шляхты. Апошнія найперш і падтрымлівалі гэтыя школы матэрыяльна. У мэтах схілення да пратэстантызму шырокіх слаёў насельніцтва ў гэтых школах шырока выкарыстоўвалася беларуская мова. **У 1562 г. кальвініст Сымон Будны выдаў у Нясвіжы «Катэхізіс для деток хрестіянскіх», — (выклад асноў хрысціянскага веравызнання) на беларускай мове**, які прызначаўся «для простых людзей языка руского». Наваградскія кальвіністы ў 1615 г. таксама заснавалі беларускія школы. **У якасці прадмета ўводзіць беларускую мову ў пратэстанцкіх школах князь Крыштоф Радзівіл Пярун**. Мікалай Радзівіл Чорны заснаваў гімназію ў Слуцку і школы ў Навагрудку, Нясвіжы, Заслаўі, Оршы, Менску, Свіслачы, Шклове, Віцебску, Варнянах, Глыбокім, Смаргоні. У гэтых школах у Беларусі народная мова, несумненна, выкарыстоўвалася, аднак, паколькі нашыя пратэстанты імкнуліся прапагандаваць сваё веравучэнне сярод палякаў і апалячаных беларускіх магнатаў, то і мовай, якою яны пры гэтым карысталіся, была польская. Той жа Сымон Будны пасля выдання беларускага катэхізіса перайшоў на польскую і лацінскую мовы, каб паспяхова весці палеміку з каталікамі.

**Езуіцкія школы**. Магнаты і частка шляхты, дабіўшыся сваіх мэтаў, сталі ў далейшым раўнадушнымі да спраў Рэфармацыі. Яны нават імкнуліся падаўляць радыкальную апазіцыю ў асобе антытрынітарыяў або арыянаў, якія вылучыліся ў асобны кірунак у 1562—1565 гг. як прыхільнікі святара Арыя (жыў у IV ст. у Александрыі), услед за якім адмаўлялі траічнасць Боства. Вядомымі



Гравюра — Сымон Будны, выкананая паводле скульптуры С.Гарбуновай

антытрынітарыямі былі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, якія прадоўжылі справу Францыска Скарыны па перакладу і выданню Бібліі. На далейшы лёс рэфармацыйнага руху ў Вялікім Княстве Літоўскім моцна паўплывала заключэнне Люблінскай дзяржаўнай уніі ў 1569 г.

Заснавальнік Ордэна езуітаў Ігнацій Лаёла нарадзіўся ў сям'і небагатых іспанскіх дваран, дзе быў 13-м дзіцем і не мог таму разлічваць на атрыманне родавага маёнтка ў спадчыну. Няўдала паспытаўшы ўдачы на ваенным полі дзейнасці, ён вырашае заняцца рэлігіяй. Будучы ў Парыжы, ён усведамляе цяжкасць становішча, у якім аказалася каталіцкая царква пад націскам Рэфармацыі. У якасці салідная апоры для каталіцызму ён стварае Таварыства Ісуса, якое было зацверджана ў 1540 г. Папам Паўлам III. Гэтае таварыства або Ордэн езуітаў уяўляў сабой паўманаскую-паўваенную арганізацыю, якая займалася больш палітыкай, чым рэлігіяй. Статут ордэна прадпісваў строгую субардынацыю. Сістэма адбору і выхавання кадраў для яго як тупых выканаўцаў задум Ватыкана была даведзена да абсурду. Гэтым тлумачыцца перамога езуітаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Іх дэвізам быў славуты выраз «Мэта апраўдвае сродкі», выраз жа «Езуіцкая ўсмешка» характарызуе 7-е правіла «Вялікай хартыі» ордэна. Пасля Люблінскай уніі добра арганізаваныя і вышкаленыя падраздзяленні езуітаў рушылі ў Вялікае Княства Літоўскае. Мэту экспансіі добра выразіў Папа Клімент VIII, які перад тым быў папскім нунцыем у Рэчы Паспалітай і цудоўна ведаў сітуацыю ў гэтай краіне: «О мае рускія! Спадзяюся праз вас схіліць у каталіцызм увесь Усход!» Галоўным ідэолагам Контррэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім быў езуіт Пётр Скарга. Распальваючы нацыянальныя пачуцці палякаў, ён сцвярджаў у сваіх працах, што яны — абраны Богам народ, і галоўнае іх прызначэнне — пашырэнне каталіцызму сярод народаў, якія ўвайшлі ў склад Рэчы Паспалітай пасля Люблінскай уніі. Схіліўшы караля-пратэстанта Стэфана Баторыя на свой бок, езуіты за кароткі час адкрылі свае калегіі ў Нясвіжы, Оршы, Берасці, Пінску, Горадні, Віцебску, Навагрудку, Менску, Слуцку, Жодзішках. У 1618-19 навучальным годзе ў езуіцкіх установах Вялікага Княства Літоўскага навучалася 3165 школьнікаў і студэнтаў. К 1773 г. у Нясвіжскай калегіі было каля 300 дзяцей феадалаў, у Полацкай — больш за 250. У асноўным яны былі выхадцамі з сямей каталікоў і апалячанай беларускай шляхты, якія сталіся апорай Контррэфармацыі. Вялікая ўвага ў калегіях надавалася лацінскай і грэцкай мовам. На польскай мове дазвалялася размаўляць толькі ў малодшых класах і толькі ў нядзельныя і святочныя дні. Аднак ужывальнай у пэўным сэнсе была і беларуская мова. Па словах гісторыка школ Польшчы і Літвы Лукашэвіча, у езуіцкіх школах народнай мовы і мясцовых гутарак не адвяргалі. На іх выконваліся рэлігійныя гімны, сцэнічныя прадстаўленні, у некаторых калегіях па-беларуску нават вучылі. Нягледзячы на атмасферу духоўнага рабства і рэлігійнага фанатызму, што панавалі ў езуіцкіх навучальных установах, з іх выйшла цэлая плеяда выдатных вучоных і літаратараў, якія набылі сусветную вядомасць. Гэта педагог Казімір Лышчынскі, паэт і астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі, матэматык і педагог Францішак Нарвойш, гісторык Альберт Каяловіч, паэт Мацей Сарбеўскі і іншыя.

**Уніяцкія школы**. Берасцейская царкоўная унія 1596 г. была этапам на шляху ўмацавання пазіцый Рыма ў Вялікім Княстве Літоўскім. Заключана яна была на царкоўным саборы ў Берасці і зацверджана каралём Жыгімонтам III. Была праведзена на аснове ўзаемных уступак. Захаваліся ўсе праваслаўныя абрады, богаслужэнне і казанні спачатку на царкоўнаславянскай, потым на беларускай мове. Яе заключэнне было выклікана мноствам прычын: жаданнем праваслаўных іерархаў быць незалежнымі ад канстанцінопальскага патрыярха, які пасля заваявання Візантыі туркамі быў у пэўным сэнсе залежным ад дэспатычнага ўсходняга тырана — турэцкага султана, нежаданнем падпарадкоўвацца маскоўскаму патрыярху, які, будучы ў 1589 г. узведзеным у гэты сан, больш не падпарадкоўваўся канстанцінопальскаму патрыярху і называўся патрыярхам «усяе Русі», уключаючы Беларусь і Украіну, бо меў намер пашырыць свой уплыў і на праваслаўную царкву Беларусі, спробай процідзейнічаць імкненням рускага цара захапіць землі Беларусі і Украіны, імкненнем праваслаўных іерархаў атрымаць такім чынам месцы ў сенаце Рэчы Паспалітай, ліквідаваць крызіс у праваслаўнай царкве, імкненнем да еднасці хрысціянскай царквы, імкненнем каталіцкай царквы і караля Жыгімонта III захаваць адзінства феадалаў Рэчы Паспалітай пры ажыццяўленні ўнутранай і знешняй палітыкі дзяржавы, імкненнем да супольнага змагання з Рэфармацыяй. Ініцыятарамі уніі былі прадстаўнікі праваслаўнай іерархіі Вялікага Княства Літоўскага М.Рагоза, І.Пацей, К.Цярлецкі і іншыя. Уніяцкія школы на Беларусі адчынялі уніяцкія манахі-базыльяне. Базыльянскія манастыры былі ў Беразвеччы Дзісенскага, Барунах Ашмянскага, Жыровічах Слонімскага паветаў, а таксама ў Мсціслаўі і Вільні. Віленская кангрэгацыя 1636 г. узаконіла беларускую мову ва уніяцкай царкве. На XV сесіі гэтай кангрэгацыі пастанавілі, каб казанні ва уніяцкіх цэрквах гаварыліся па-беларуску. Аб высокай ступені ўжывальнасці беларускай мовы ва уніяцкіх школах сведчыць тое, што гэтыя школы пераважна называліся «рускімі», г.зн. беларускімі. Архімандрыт Дубовіч у Супраслі заснаваў школы для «русчызны». На Кобрынскім саборы пастанавілі заснаваць духоўную семінарыю ў Менску, дзе па-беларуску мелі выкладаць як свецкія, так і багаслоўскія навукі. Такім чынам, уніяцкая царква і уніяцкія школы былі бадай адзінымі з усіх існаваўшых на Беларусі ў старажытнасці цэркваў і іншых школ, дзе беларуская мова ўжывалася ў найбольшай ступені.

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

*Тут леснікі бягом да брычкі,*
*Бо знаюць панскія прывычкі,*
*Нясуць іх стрэльбы і пакункі,*
*Прылады розныя, ладункі,*
*І ў будане іх прыбіраюць.*

**Ладунка**. Ням. Ladung f 'зарад'. Нямецкае слова ўтворана ад laden 'грузіць; заражаць (ваеннае, паляўнічае)', с.-в.-ням. laden, ст.-в.-ням. (h)ladan, гоц. hlaban узыходзіць да кораня *klā- 'рассцілаць'. Ст.-слав. klad, klasti.

*Паны ў калясцы пад'язджаюць,*
*Хурман тут лейцы падцінае,*
*Стаенных пару прыпыняе.*

**Лейцы**. Ням. Leitseil n складанае слова: leiten 'весці, вадзіць'. Другое слова Seil n 'вяроўка', с.-в.-ням., ст.-в.-ням. seil. Іншае і.-е. чаргаванне галосных у слове Siele f 'рэмень, збруя', с.-в.-ням. sil, ст.-в.-ням. silo. І.-е. корань *sēi, *səi: *si- 'звязваць; вяроўка, рэмень'. Бліжэйшыя родныя ст.-слав. silo 'вяроўка'.

*І часта роздараж іх быту*
*Над імі зляжа, як навала,*
*І гэта даль падчас пужала,*
*Як нейкі лёс пусты, сярдзіты.*

**Лёс**. Ням. Los n, с.-в.-ням. lōz, ст.-в.-ням. (h)lōz m, n 'жэрабя, кіданне жэрабя, вызначэнне лёсаваннем (жэрабем), падзел спадчыны', гоц. hlauts m 'жэрабя, спадчына'. Адно са значэнняў ст.-паўн. hlaut n 'ахвяравальная кроў'. У часы паганства ў германцаў дзеяслоў ад гэтага слова з'яўляўся ахвяравальным выразам і быў заўважаны Тацытам. У раманскія мовы слова Los n трапіла ў значэнні 'азартная гульня, лато, латарэя'. Германскі корань *hlut з асноўным значэннем 'зачапіць' адпавядае ст.-слав. kl'učĭ роднаснае лац. clāvis, грэц. klāis 'ключ'. Спачатку азначала тое, што выпадала пры кіданні жэрабя, напрыклад, пэўная частка зямлі, потым — 'што выпадала на лёс'.

*Дадому дзядзька ехаў лёсы,*
*Кладзе ён човен на калёсы,*
*І едзе наш Антось вясёлы,*
*І з ім падсмейваюцца й колы.*

**Лясаваць** Лясаваць 'свабодна рухацца ў нечым'. Ням. lēsen, с.-в.-ням. loesen, ст.-в.-ням. lōsen ад *lōsjan. Узыходзіць да прыметніка los 'вольны, не прымацаваны', с.-в.-ням., ст.-в.-ням., ст.-сакс. lōs 'вольны, парожні' і інш. Генетычнароднаснае грэц. lyō, лац. solvō (ад *se-luō) 'развязваю, адпускаю', luō 'выкупаю віну, плачу'.

*Яшчэ па звычаю старому*
*Мужчыны сталыя удому*
*Свае літанні адпраўлялі,*
*Пакуты Езуса спявалі.*

**Літанні**. Літанне. Ням. Litanei f запазычана ў пачатку XIII ст. у с.-в.-ням. letanīe. Грэц. litaneia 'мальба, просьба' дало праз лац. litanīa ст.-франц. letanie. Потым прыйшло ў нямецкую мову.

*Склады чытаць ты пойдзеш*
*скора,*
*Абы каб літары нам знаць.*

**Літара**. Ням. Letter f. Лац. littera f 'літара', ад якога з тым жа значэннем утварылася с.-в.ням. litter. У друкарскай справе ў XVII ст. Litter замянілася на Letter і засталося толькі як спецыяльны тэрмін у друкарстве.

*Гандляркі бегаюць з кашамі.*
*У ліхтарах агні трапечуць.*

**Ліхтар**. Ням. Leuchter m, Leuchte f 'электрычная крыніца святла', с.-в.-ням. (XIII ст.) liuhtaere, (XIV ст.) lūchter ад leuchten 'свяціць'. Узыходзіць да *liuhta 'святло', І.-е. корань *leuk- 'свяціць, святло', лац. lūx 'святло', ст.-слав. lučĭ 'святло'.

*Дарэктар рвецца на кавалкі,*
*Зламаў на бляce ўжо дзве палкі,*
*Дзярэцца нема, лямантуе, —*
*Такі там гвалт — хай Бог ратуе!*

**Лямантаваць**. Ням. lamentieren узыходзіць да лац. lamentari 'рыдаць, гараваць, галасаваць'. Гукаперайманае Lamento n 'лямант' лац. lāmenta 'рыданне, плач'.

ACADEMIA «NS»

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАСЯЛІЦЦА** (пасяліцца, асталявацца ў іншым месцы, змяніць месца свайго жыхарства) *З бярвення звонкага брыгады зрубяць хаты, З зямлянак пераселіцца народ* (Панчанка). **ПЕРАЕХАЦЬ** *Новая кватэра, куды пераехалі Віталік і Раман, знаходзілася ў доме з шыльдай «Дзіцячы свет»* (Даніленка). *[Мікола:] Я мяркую, што Настасся Рыгораўна павінна ў наш калгас пераехаць* (К.Крапіва), **ПЕРАБРАЦЦА** разм. *«Я не паслухаўся маці, не перабраўся ў вёску, не стаў жыць, як усе», — дакараў сябе цяпер Анісім* (Сачанка). *Гады цераз тры Міцкевічы перабраліся на сталае жыхарства ў Навагрудак* (Пойка), **ПЕРАКАЧАВАЦЬ** разм. *Спачатку я атайбавалася ў бальніцы, а потым з некаторымі хворымі перакачавала да Івана Іванавіча...* (Мікуліч), **ПЕРАВАНДРАВАЦЬ** разм. *За тры леты новы пасёлак азеляніўся. Чаромха, бэз, парэчкі перавандравалі* [у пераносным ужыванні] *з хутароў, прыжыліся* (Асіпенка). — *Незак.:* **Перасяляцца, пераязджаць, перабірацца, перакачоўваць, перавандроўваць**.

— **Перасяленне, пераезд.**

**Перасяліцца**

Англійскі сінанімічны рад тут наступны: **move, migrate, resettle**. Другі з іх — **migrate** больш за іншых набліжаецца да бел **перакачаваць, перавандраваць**, але не мае размоўнай афарбоўкі.

**ПЕРАСЯЧЫ і ПЕРАСЕКЧЫ** (рассячы папалам, на часткі) *Бізуном бервяна не перасячэш, — адказаў аброслы барадою рабочы* (Арабей). *Ці варта з-за нейкага там балбатання цецерука альбо свісту дразда ў голым кусце арэшніку ногі біць! Можа, і сапраўды лепш лішнюю граду дагледзець альбо палку перасекчы?* (Ігнасценка), **ПЕРАЦЯЦЬ і ПЕРАТНУЦЬ** *Перацяць (ператнуць) сякерай хвасціну. І пачаў [хлопчык] нажом сталёвым пілаваць і секчы дрэва, аж здрыгаўся пень яловы, аж смала на ім кіпела... Так па трэсачцы, па цалі пераццяў да палавіны* (Дубоўка). — *Незак.:* **Перасякаць, перацінаць**.

1. **ПЕРАТВАРЫЦЦА** ў што-каго (перайсці ў другі стан, набыць іншы выгляд, форму) *Гэтыя азёры зарастаюць, з цягам часу ператвараюцца ў суцэльныя балоты* (В.Вольскі). *На дарозе ўсюды вада, маленькія ручаіны ператварыліся ў рэкі* (С.Александровіч), **ПЕРАВЯРНУЦЦА** ў каго - што *Былі рублі, ды перавярнуліся ў вераб'і* (прымаўка), **АБЯРНУЦЦА** ў каго-што або кім-чым *Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам Абернецца ў ворагавым горле карывасмочым* (Купала). *Ён пазбыў свой цяжкі клопат, і яго бацькава гора абярнулася ў радасць: ён знайшоў свайго сына і даручыў яго надзейным людзям* (Колас), **СТАЦЬ** кім-чым або як хто-што *Шырокі свет з сонцам, з ветрам, з пахам дажджоў і зіхаценнем дзён стаў цесным склепам* (Чорны), **ПЕРАРАБІЦЦА** ў каго-што *Праходзячы праз дзесятыя вусны, навіны перарабляюцца ў бліскучыя байкі* (Бядуля), **ЗМЯНІЦЦА** кім-чым або на каго-што *Страх цёмны змяніўся памалу Цікавасцю вострай жаночай* (Колас). *І ўбачылі засмучаныя нашы вочы, Як дні змяніліся на ночы* (Купала), **ЗАМЯНІЦЦА** кім-чым *Мы верылі ў тое, што казалі старыя: калі пярун стрэліць у рэчку — яна заменіцца крывёю* (Адамчык). *Крывая не заменіцца прамой. Двудушша не схаваецца пад грымам* (Дайнека), **ПЕРАКУЛІЦЦА** разм. *[Адвернік:] — Што з вашым розумам капейчына ў рубель Так перакуліцца, што й не заўважыш* (Клімковіч). — *Незак.:* **Ператварацца, пераварочвацца, абарочвацца і абарачацца, станавіцца, перарабляцца і перароблівацца, змяняцца і зменьвацца, замяняцца і заменьвацца, перакульвацца**.

ФІЛАЛОГІЯ

*Артыкул, які публікуецца ніжэй, мае сваю, не такую ўжо блізкую, гісторыю. І для таго, каб чытач змог у ёй арыентавацца, трэба крыху наблізіць да яго той час, калі гэта было напісана, і пазнаёміць з двума вучонымі з дзвюх славянскіх краін, з двума поглядамі на адзін прадмет — развіццё слоўнікавага складу нашай мовы на працягу гістарычнага яе шляху.*

*У 1951 г. у Маскве на расійскай мове выйшла манаграфія «Белорусский язык», а праз пяць гадоў другая — «Грамматика белорусского языка». Аўтарам абедзвюх кніг быў вядомы ўжо на той час мовазнавец Цімафей Пятровіч Ломцеў. Ён нарадзіўся ў Варонежскай вобласці, у Варонежы скончыў універсітэт і ў 1933 годзе быў прысланы на Беларусь, дзе стаў намеснікам дырэктара Інстытута мовы АН БССР, а з 1939 г. — дэканам філалагічнага факультэта, загадчыкам кафедры рускай мовы і літаратуры БДУ. У 1944—1946 гг. Ц.Ломцеў загадваў аддзелам ЦК КП(б)Б, потым працаваў у Маскоўскім універсітэце.*

*Калі выйшлі кнігі Ц.Ломцева па беларускай мове, на іх звярнуў увагу вядомы чэшскі славіст Карал Гаралек, член-карэспандэнт Чэхаславацкай АН. Займаючыся параўнальным вывучэннем славянскіх моў і прысвяціўшы гэтай галіне мовазнаўства не адно даследаванне (характарыстыку беларускай мовы ён даў, у прыватнасці, у вялікай манаграфіі «Уводзіны ў вывучэнне славянскіх моў») Карал Гаралек змясціў рэцэнзію на кнігі Ц.Ломцева ў часопісе «Чэкословенска русісціка» (1959, № 2), дзе скрыжаваў шпагі з расійскім даследчыкам. Артыкул К.Гаралека ў нас, наколькі мне вядома, нідзе не публікаваўся і не згадваўся, а ён мае несумненную цікавасць для сучаснага беларускага чытача.*

**А.М.**

*Карал ГАРАЛЕК*

# Беларуская лексіка: усходнія і заходнія паралелі

Аўтары прац, у якіх даецца класіфікацыя і характарыстыка славянскіх моў, да гэтага часу надавалі мала ўвагі іх лексічнаму складу. Час ад часу да лексічнага складу славянскіх моў даследчыкі звярталіся, падаючы іх сістэматычнае апісанне.

Кароткую характарыстыку лексічнага складу беларускай мовы даў Ц.П.Ломцеў у сваёй граматыцы беларускай мовы. Аднак, калі паглядзець на яго характарыстыку мовы з больш шырокага параўнаўчага пункту гледжання, то яна няпоўная і ў нейкай ступені скажае суадносіны беларускай мовы з заходнеславянскімі; мы хочам з гэтага боку яе дапоўніць.

У якасці найстаражытнейшага пласта беларускай мовы Ломцеў вылучае словы, якія з'яўляюцца агульнымі для ўсіх усходнеславянскіх моў. Гэта, напрыклад, розныя назоўнікі, сярод якіх: назвы аб'ектаў прыроды *(зямля, неба, сонца, мора, рака... =řeka, возера, гара)*, назвы атмасферных з'яў *(дождж, снег, вецер, бура, гром)*, поры года і іншыя вызначэнні часу *(зіма, лета, восень, дзень, ноч)*, назвы раслін *(дуб, бяроза, сасна, клён, ліпа, вольха; пшаніца, ячмень, авёс, лён)*, жывёлін *(леў, мядзведзь, воўк, ліс, белка, заяц; конь, карова, свіння, авечка, каза)*, птушак *(варона, галка, сокал, салавей, сарока)*, затым назвы паселішчаў, пабудоў і да т.п. *(сяло, вуліца, дарога, мост, дом, хлеў, вароты, сцяна, акно, дзверы)*, назвы прылад і мэблі *(стол, бочка, лаўка, вядро, карыта, нож, вілы, граблі, каса, серп, цэп, барана, молат, долата, піла)*, страў *(мяса, сала, сыр, масла, каша)*, назвы сваяцтва *(маці, брат, сястра, муж, жонка, сын, дачка, дзед)*.

Далей сярод усходнеславянскіх лексічных элементаў Ломцеў называе таксама лічэбнікі і некаторыя прыметнікі, якія абазначаюць, напрыклад, колеры, прасторавыя адносіны *(блізкі, далёкі, верхні, ніжні, пярэдні, задні)*, вызначэнні часу *(позні, ранні, новы, стары* і інш.*)*, пачуццёвыя ўспрыманні *(салодкі, горкі, кіслы, гарачы, халодны, гладкі, мяккі, цвёрды)*.

Як дзеясловы, агульныя для ўсёй групы ўсходнеславянскіх моў, Ломцеў падае *браць, прасіць, гарэць, гнаць, лавіць, кідаць, лезці, ляжаць, мыць, піць, вучыць, рэзаць, спаць, тапіць, хадзіць, шыць*.

Усходнеславянскую аснову лексічнага складу беларускай мовы Ломцеў паказвае і на вытворных словах, якія ў беларускай мове ўзніклі самастойна, хаця і з усходнеславянскіх каранёў (шляхам дабаўлення адмысловых суфіксаў). Прыводзіць, напрыклад, словы *жыхар* (рас. *житель*), *носьбіт* (рас. *носитель*), *пісьменнік* (рас. *писатель*) і інш.

Сярод усіх гэтых лексічных элементаў, якія, паводле Ломцева, характэрныя для ўсходнеславянскіх моў, **яўна пераважаюць словы, якія маюць агульнаславянскі характар і праславянскае, а нярэдка нават індаеўрапейскае паходжанне**. У гэтым кожны можа лёгка пераканацца, зазірнуўшы ў этымалагічныя слоўнікі. Ломцеў толькі зрэдку прыводзіць словы, якія маглі б лічыцца ўсходнеславянскай асаблівасцю. Да такіх мы, напрыклад, аднеслі б лічэбнік *сорак*. З прыметнікаў ён, сярод іншых, такімі асаблівымі лічыць *выразны* (рас. *выразительный*), *мужны* (рас. *мужественный*). Але прыметнік *выразны* мае відавочную паралель з чэшскім *výrazný*. Да некаторых прыкладаў, аднесеных Ломцевым да катэгорыі слоў, утвораных ад розных асноў, можна было б прыводзіць паралелі не толькі з украінскай, але і з польскай і чэшскай моў: напрыклад, да назоўніка *захад* (рас. *запад*) ёсць польская паралель *zachód*, **да *пераклад* (рас. *перевод*)** — чэшскі аналаг *překlad* і г.д.

Заходнеславянскія паралелі можна таксама прыводзіць да Ломцеўскіх прыкладаў тых слоў, якія ў беларускай мове маюць значэнне, адрознае ад расійскага, напрыклад, *час* (рас. *время*), чэш. *čas*, польск. *czas*, *гной* (рас. *навоз*), чэш. *hnůj*; *смутны* (рас. *грустный*), чэш. *smutný*, *паліць* (рас. *жечь*), чэш. *pálit*. Дзеяслоў *пытаць* (рас. *спрашивать*) мае прамую паралель ва ўкраінскай і славацкай мовах.

Падобная сітуацыя і са словамі, якія ў расійскай мове існуюць як формы дыялектныя, напрыклад *вежа* (рас. літарат. *башня*, чэш. *věž*), *гай* (рас. *роща*, чэш. *háj*, польск. *gaj*), *кут* (рас. літарат. *угол*, чэш. *kout*) і г.д.

Сувязь лексічнага складу беларускай і заходнеславянскіх моў яўная, яе лёгка прасачыць, яна зададзена ўжо самім геаграфічным становішчам краін, яе можна давесці шматлікімі прыкладамі, якіх Ломцеў не прыводзіць ні ў воднай з катэгорый.

Нагадаем некалькі характэрных прыкладаў, прычым з розных часцін мовы.

Назоўнікі: *бохан* (рас. *каравай*), чэш. *bochník*; *кош (корзина)*, чэш., польск. *koš*; *свет (мир)*, чэш. *svět*, польск. *świat*; *стужка (лента)*, чэш. *stuha*, *stužka*; *твар (лицо)*, чэш. *tvář*; *асоба (лицо, личность)*, чэш., польск. *osoba*; *пакой (комната)*, чэш. *pokoj*, польск. *pokój*; *краса (красота)*, чэш. *krása*, польск. *krasa*; *скіба (ломать)*, чэш. *skýva*; *смутак (печаль)*, чэш. *smutek*; *збан (кувшин)*, чэш. *džban*; *хлапец (мальчик)*, чэш. *chlapec*; *увага (внимание)*, польск. *uwaga*; *выбух (взрыв)*, чэш. *výbuch*; *злодзей (вор)*, чэш. *zloděj*; *помста (мщение)*, чэш. *pomsta*.

У некаторых выпадках у беларускай мове слову ўсходняга паходжання адпавядае слова не расійскага, а нямецкага паходжання. Сюды адносяцца, напрыклад, *шынок* (рас. *кабак*, беларускае слова мае аналагі ў польскай і чэшскай мовах), *шляк* (у значэнні *бережок*, рас. *кайма)*, *абцас* (рас. *каблук*).

Так, дзе ў расійскай мове бытуе слова ўсходняга паходжання, у беларускай працягвае існаваць старое славянскае слова, напрыклад, замест *карман* у беларускай мове маецца *кішэнь* (польск. *kieszeń*), замест *лошадь* у беларускай толькі *конь*, замест *хозяин* — беларускае *гаспадар*.

Вядома, сустракаюцца і такія выпадкі, калі замест пазычанага беларускай мовай слова ў расійскай бытуе слова старaславянскае (часам сэнсава прыстасаванае). Да такіх адносяцца, напрыклад: *фарба* (рас. *краска*), *дах (кровля)*, *крама (лавка)*, *вага (весы*, чэш. *váha)* і г.д. З дзеясловаў нагадаем *нарыхтаваць* (рас. *заготовить*) і *мусіць* (рас. *должен быть*) і інш., якія здаўна маюць аналагі ў польскай і чэшскай мовах, *меркаваць* (рас. *мнить*).

Некалькі беларуска-заходнеславянскіх паралеляў можна прывесці і ў катэгорыі прыметнікаў: *тлусты* (рас. *жирный*), *чырвоны* (рас. *красный*).

Дзеясловы: *замкнуць (заключить)*, *скончыць (закончить)*, *працаваць (работать)*, *ціснуць* (чэш. *tisknouti*, рас. *жать*), *чакаць (ждать)*, *датыкацца (касаться)*.

Зразумела, у пазычаных словах беларуская мова часта ідзе поплеч з расійскай — у той час як заходнеславянскія мовы ішлі іншым шляхам. Сюды адносяцца, напрыклад *аванс* (чэш. *záloha*), *канікулы* (чэш. *prazdniny*, польск. *wakacje, ferie*), *атака* (чэш. *útok*, польск. *szturm, narad*) і інш.

Беларускія словы, якія маюць **паралелі ў заходнеславянскіх мовах**, пераважна старажытныя, яны існавалі ўжо ў праславянскай мове. У беларускай мовы былі лепшыя ўмовы для іх захавання, чым у мове расійскай, якая, між іншым, зведала надта моцныя ўплывы іншых, неславянскіх моў (цюрка-татарскіх, угра-фінскіх і інш.).

На беларускую мову аднак неславянскія мовы ўздзейнічалі таксама, галоўным чынам нямецкая — як праз мову польскую, так і непасрэдна (resp. праз мову ідыш). З жаргону, напрыклад, пранікла ў беларускую мову слова *шмат* (рас. *много*). Паколькі гэта слова ўжываецца для ўтварэння складаных слоў, якія адпавядаюць расійскім складаным словам з *много=*, то гэтая лексічная асаблівасць беларускай мовы мае параўнаўча вялікую частотнасць, і ў характарыстыцы лексічнага складу беларускай мовы яе нельга абмінуць. Утварэнне складаных слоў са *шмат= непаслядоўнае, у* літаратур. *мову пранікаюць. і складаныя словы з многа=* (само прыслоўе *шмат* таксама мае дублеты *многа* і *багата*). Маюцца таксама прыклады, калі складаныя словы абодвух відаў ужываюцца адначасова, напрыклад *многавяковы* і *шматвяковы*.

Лексічных элементаў, якія адрозніваюць беларускую мову ад расійскай, не так многа, каб трэба было нешта мяняць у нашым поглядзе на прыналежнасць беларускай мовы да ўсходнеславянскай моўнай групы. **Нельга таксама дапусціць думку, што беларуская мова з'яўляецца нейкім пераходным звяном ад усходнеславянскай групы да заходнеславянскай.** Палітычнае і культурнае становішча Беларусі пачынаючы з XVIII стагоддзя, вядома ж, замацоўвала прыналежнасць беларускай мовы да ўсходнеславянскай групы. Тым не менш менавіта лексічная злітаванасць з заходнеславянскімі суседкамі застаецца характэрнай асаблівасцю беларускай мовы.

**Пераклад з чэшскай Алеся МАЖЭЙКІ.**

# Пакутнік Беларусі

***(Да ўгодкаў смерці Сяргея Новіка-Пяюна)***

26 жніўня спаўняецца год, як ад нас пайшоў беларускі паэт, чалавек трагічнага лёсу і незвычайнай мужнасці, Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн. 27 жніўня наступнага года яму споўнілася б 90 год...

Сяргей Новік-Пяюн (Сяргей Міхайлавіч Новік) нарадзіўся 27.08.1906 у вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Нясвіжскай рускай гімназіі (1918—1924), скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні (1926). За культурна-асветніцкую работу неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Адбыў пяцігадовую ссылку на Паморʼі (1926—1931), у 1939 г. сядзеў у турме ў Баранавічах. У савецкі час працаваў інспектарам Слонімскага раённага аддзела народнай асветы (1939—1940), дырэктарам Слонімскага краязнаўчага музея (1940—1941). У час Вялікай Айчыннай вайны за сувязь з партызанамі прыгавораны фашысцкімі ўладамі да пакарання смерцю. Вызвалены партызанамі з Калдычэўскага лагера. Зноў працаваў дырэктарам Слонімскага музея. 14.12.1944 г. арыштаваны, а ў сакавіку 1945 г. асуджаны Ваенным трыбуналам НКУС на 10 год пазбаўлення волі «за палітыку». Тэрмін адбываў на Калыме.

На Беларусь Сяргей Міхайлавіч вярнуўся ў 1959 годзе. Многія людзі рознага ўзросту прыходзілі да яго, каб далучыцца да каштоўнасцей вечных, каб сустрэцца з чалавекам, які зрабіўся ўвасабленнем лёсу ўсёе Беларусі.

Сяргей Міхайлавіч быў чалавекам сціплым, з тонкай і чулай душой. Фактычна ён паспеў выдаць толькі тры кніжкі пасля вяртання з пакутных шляхоў — зборнікі паэзіі «Заўсёды з песняй» (1984), «Песні з-за кратаў» і кніжка вершаў для дзяцей «Зорачкі ясныя» (1986). Быў чалавекам разнабаковых адоранасцей — маляваў, пісаў музыку. Яго цудоўныя песні вядомыя ўсім у выкананні Данчыка — «Зорачкі», «Вальс над Шчарай» і інш.

Светлая памяць пакутніку Беларусі.

**Л.Ш.**

* * *

23 жніўня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася вечарына памяці С.Новіка-Пяюна. Вечарына ладзілася ў рамках абанементнай сустрэчы тэатра «Зьніч». Спачатку гучала песня «Зорачкі» (муз. і сл. С.Новіка-Пяюна). На сцэне стаяла фотагазета, зробленая У.Кармілкіным. Выступалі Я.Пархута, В.Бабкова, С.Грахоўскі, сем'і Жуковічаў, Дзягілевых. П.Знавец праспяваў «Вальс над Шчарай» С.Новіка-Пяюна; вершы паэта чытала Жэня Жуковіч. Г.Смоляк, сеўшы за фартэпіяна, праспявала сваю песню. У выкананні А.Лявончыка (цымбалы) гучалі прыгожыя народныя мелодыі. Т.Матрунчык распавядала пра духоўнае жыццё. Вяла вечарыну Л.Рублеўская. Яна артыстычна прачытала свой верш, а ў канцы, узяўшы «Беларускі праваслаўны малітоўнік», мовіла «Малітву за Беларусь». Прысутныя маліліся стоячы.

Цікава, што С.Грахоўскі назваў С.Новіка-Пяюна «народным пакутнікам Беларусі».

Калі вечарына скончылася, прыгожы «Вальс над Шчарай» гучаў яшчэ раз. Але ў запісу, у выкананні Данчыка.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

*Фотаінфармацыя*

# Па краіне гуляе «бел-чырвона-белы» канверт...

У шырокі продаж паступіў канверт з мастацкай мініяцюрай, прысвечанай 200-м угодкам Вызвольнага паўстання беларускага і польскага народаў супраць царскіх каланізатараў.

Як распавёў старшыня Нацыянальнага аргкамітэта па святкаванні гэтай даты, мастак-графік Мікола Купава (ён жа аўтар мініяцюрнай выявы), на малюнку змешчаны шляхціч і вайсковец арміі Вялікага Княства Літоўскага на фоне разгорнутага бел-чырвона-белага сцяга падчас атакі паўстанцаў.

Канверт, выпушчаны Рыжскай фабрыкай Дзяржзнака, па прызнанні сп.Купавы, — адно з лепшых мерапрыемстваў, здзейсненых згаданым камітэтам у гонар юбілею касцюшкаўскага збройнага чыну. Зразумела, што гэта праца мастака не губляе сваёй актуальнасці і цяпер, калі 1996 год абвешчаны ЮНЕСКА годам кіраўніка паўстання, генерала Тадэвуша Касцюшкі — героя беларускага, польскага і амерыканскага народаў, у барацьбе якіх ён сам удзельнічаў непасрэдна.

Адно сумна, што наша гістарычная сімволіка засталася «ў законе» толькі на гэтым канверце.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**




*Творчасць нашых чытачоў*

*Святлана ЦІШУК*

## Шукаю я словы...

На вузкай сцяжынцы размовы
Мая сяброўка лушчыць словы.
Дзіўлюся. І зайздрошчу трохі:
Яна не мае слоў пасохлых.
За сакавітым словам лезці
Не трэба ёй да неба лесвіцы...
Не тое — я. Не даў мне Божа
Для красамоўства слоў прыгожых.
І мне самой шукаць іх трэба,
Як для жыцця кавалак хлеба.
Шукаю слоўцы я паўсюдна.
Цягну я іх з мясцін залюдных...

## Прыгожая жанчына

Жанчына прыгожая — цёплае лета.
Жанчына прыгожая — слодыч вады.
Жанчына прыгожая — песень куплеты.
Жанчына прыгожая — ў восень сады.
Жанчына прыгожая — сэрцу несцішша.
Жанчына прыгожая — светлы настрой.
Жанчына прыгожая — мараў узвышша.
Жанчына прыгожая — шчасця напой.

г. Ліда

*Іван БОГУШ*

## Беларускія пытанні

Цябе, зямляча, партакраты
Рублём расійскім паманілі,
Але калі, якія краты
Святую волю замянілі?
Цябе, народ мой, запытаю:
Ты шчыры й мужны — добра знаю,
Але як зробімся «прыдаткам»,
Дык ці даруюць нам нашчадкі?

г.Луцк.

# І смех і грэх

*Пішам, перакладаем*

## Прэса-куламеса

### «Запёршыся» ці «пад замком»?

Па тэлевізары паказвалі амерыканскі фільм. Па-расійску ягоная назва была перакладзена: «Взаперти». **Друкуючы праграмы расійскага тэлебачання па-беларуску,** нашы газеты, вядома ж, перакладаюць тэкст з расійскай мовы. Гэтак у «Звяздзе» напісалі: «Запёршыся»(?!). У фільме паказаны чалавек, якога пасадзілі за краты. Дык што ж, атрымліваецца, што ён сам запёрся? У газеце «Свабода» назва фільма перакладзена, як «Зачынена». Лепш, але... у «Руска-беларускім слоўніку» (Мн., 1982, т. 1, с. 94) чытаем: «**Взаперти** нареч. **1** *(в запёртом помещении)* пад замкóм; (быць) запёртым; **2** перен. *(в уединении)* у адзіноце, у самоце; **жить в.** жыць у адзіноце (у самоце)». А ў «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» В.Ластоўскага (Коўна, 1924) прыслоўе **взаперти** перакладаецца: **наўзапры, пад замком.** Мне асабіста здаецца, што лепей за ўсё ў дадзеным выпадку падыходзіць першы, аднаслоўны, варыянт.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

### Татуіроўка «на иностранном языке»

16 чэрвеня 1995 года «Витебский курьер» паведамляў пра пошук чалавека і сярод прыкмет называў такую: **«на одной из рук татуировка с буквами на иностранном языке»**.

Ну, ужо і адмыслоўцы сядзяць у крымінальным вышуку! «На иностранном языке» — гэта на якой мове — рускай, польскай, англійскай, эсперанта, кітайскай?

Хутчэй за ўсё, татуіроўка тая была выканана лацінкай; малаверагодна, каб у нас хто меў татуіроўку на японскай, грэцкай або іўрыце. Варта было так і напісаць: «лацінскія літары». Але ж міліцыя доўга не разбіралася, а мо і не здольная была разабрацца. Таму і з'явіўся ў паважанай газеце смеху варты ляпсус.

**Уладзімір СЛАБІН.**

*Міхаіл ЖВАНЕЦКІ*

## Шкада, аднак

*(Урывак.)*

Шкада нас.

Ніхто за нас не хоча прайсці наш шлях.

Давядзецца самім.

Шкада нас. Шкада.

Не трэба кідацца ў роспач. Я мяркую, што мы пераадолеем.

«Мы» — гэта, канешне, не мы цяперашнія, а ўсе мы з наступнікамі.

Цяперашніх нас, канешне, шкада.

З таго, што абяцалі — анічога.

Ні яны нам, ні мы ім.

Што ўмелі — забылі. Што ўмеем — нікому не патрэбна.

Жывём менш за ўсіх.

Хварэем таму што!..

Вытворчасць таму што старая і брудная.

І нам яе трэба выключыць.

Зусім.

Яна нам анічога не дае — ні адзення, ні машын.

А нельга выключыць, таму што мы тады не будзем падобныя на Дзяржаву. А зараз падобныя.

І мы тады не здолеем растлумачыць, чаго дамагліся за 70 гадоў. А зараз мы гаворым — паглядзіце...

І ўсе сапраўды бачаць дым, агні, саставы...

— А чаму ж вы ўсе такія абадраныя?

Гэта мы растлумачыць не можам і цягнемся на вытворчасць, а ўвечары — дадому.

І не можам растлумачыць, чаму мы раніцою цягнемся на вытворчасць, каб, значыцца.., а дадому, каб яшчэ раз... не, наадварот.

Канешне, шкада нас.

Тым больш, што вытворчасць, абдзіраючы старую вопратку, не робіць новую, а паветра атручвае.

Тое ж і сельгаспадарка.

Амаль не даючы прадуктаў, здорава пры гэтым атручвае ваду ўгнаеннямі, гэта значыць

сельгаспадарка практычна праядае тое, што вырошчвае, а вытворчасць тое, што вытварае, тут жа пераплаўляе, выдзяляючы пры гэтым газы ў асяродак жыцця,

таму што ім больш няма куды...

...А выдзяляць атруту замест прадуктаў, а газ замест машын — нядобра.

І хадзіць на вытворчасць, каб там выдзяляць яшчэ больш атруты і газу, таксама нядобра.

Але многія ходзяць, каб не быць у адзіноце

і спытаць адзін у аднаго, а чаму гэта так адбываецца

і ці ёсць іншы шлях, акрамя заўчаснай смерці ад харчовай недастатковасці і паветранай атруты?

Відаць, ёсць, разважаюць яны, але як на яго натрапіць? Чужых жа спытаць сорамна... а свае могуць і не ўзняць...

...Аднак нічога не скажаш — жыць засталося значна цікавей, толькі шкада, калі нядоўга. Хоць нядоўга жыць мы прывыклі. А ўсё роўна, быццам упершыню!..

## Як кажуць у Адэсе...

— Вы чулі, што робіцца?! Купацца ў моры небяспечна для жыцця, санэпідстанцыя зачыніла ўсе пляжы!

— А мне нават падабаецца, што яны зачынены. Мы ўчора купаліся — так здорава, нікога навокал няма...

— Ну вось, а заўтра і вас не будзе, віншую.

* * *

— Дачушка, сёння ў нас будуць госці з Амерыкі. Я цябе вельмі прашу, хоць пры іх не лай нашы парадкі

— Вой, перастань, мама, адкуль гэта ў нас парадкі?!

* * *

— Не, як вам падабаецца, што гэты Сталін вытварае! Што ён толькі вытварае!

— Што ён можа такога вытвараць? Сталін жа даўно памёр.

— Вы ўсур'ёз? А што ж яны мне гэта прадалі як свежую газету?!

* * *

У самалёта раптам заглухлі матory, пачало адвальвацца крыло. Пасажыры ўзнялі паніку, патрабуюць камандзіра. Той уваходзіць у салон з парашутам.

— Панове пасажыры, — ветліва кажа ён, — не хвалюйцеся. Я накіроўваюся на зямлю па дапамогу, а вы пакуль паслухайце музыку.

* * *

На ўроку гісторыі настаўніца пытае ў вучня:

— Хто атрымаў перамогу пад Ватэрлоо?

— Не ведаю, я яшчэ не паспеў пачуць па тэліку спартыўныя навіны.

## Гістарызмы

— Верны ленінец Хрушчоў унёс у камунізм прыкметны ўклад — мяккі знак пасля літары «з».

— Ён жа, «наш Мікіта Сяргеевіч», вельмі любіў словы на літару «к» і яны суправаджалі яго на працягу ўсяго «слаўнага дзесяцігоддзя» — культ асобы, камунізм, Кітай, Карыбскі крызіс, Кузькіна маць.

— Пытанне анкеты: «Ці былі вы рэпрэсіраваныя, а калі не, то чаму?»

*Пародыі*

*Міхась СКОБЛА*

## У палоне гор

*А на табе ўвесь век дваццаты,*
*Вякоў мінулых боль і мары.*
*Манблан дабра, Памір нягоды*
*І лютай злосці Кардыльеры.*

**Л.Мароз.**

Ад крэсла, зэдліка ці лавы
Паэт наўрад ці адарвецца,
Прыдушаны курганам славы.
Хоць малайцом, не паддаецца.

Вакол адны калдобы, ямы.
Паэту ж сніцца сон пярэсты —
Пахвал крытычны Фудзіямы
І ўласных кніжак Эверэсты.

Як на звычайным камяніску,
На слаўным піку Камунізму,
Нібы бадзягу без прытулку,
Паэту холадна і мулка.

Хай муза скіне ўсе наміткі,
Усе паўпалькі і атопкі,
Каб быў азарт, як ля Магніткі,
І дым, як з Ключаўскае сопкі!

*Янусь МАЛЕЦ*

## Непатрэбны дом

*У гэтым доме сярод лесу*
*было ў гасцях тваё імя...*
*Як птушаня, яго я песціў*
*і, як ад смагі летняй, смяг.*

**Яўген Хвалей.**

На рамантычнае спатканне
цябе аднойчы ўгаварыў.
У лесе дом адбарабаніў,
каб не кусалі камары.

А ты імя сваё прыслала, —
цалуй яго, як той баран, —
дый тое запратэставала:
«Навошта цягнеш у будан?!»

Што не рабіў, — ажно стаміўся, —
пацалаваў у спешцы ў нос
і больш нічога не дабіўся,
нібы які малакасос.

А як я марыў, як я мроіў
цябе, а не тваё імя,
абняць у гэтым вось пакоі
рукамі гэтымі дзвюма.

Чаму прыйсці не пажадала,
нібыта маеш сотні спраў?
О, колькі б змог купіць я сала
за грошы, што за дом аддаў!

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 3616

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3999 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 4.09.1995 г. у 15 гадзін.